

Анна Кандрацюк ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Паехаць, каб зразумець ➔5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 04 (3324) Год LXV | Беласток, 26 студзеня 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Славілі Раджжаство Хрыстовае

**У час Фестывалю «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай», які адбыўся ў Гайнаўскім доме культуры, 37 груп калядоўшчыкаў славілі Раджжаство Хрыстовае, выконваючы даўнія і больш сучасныя калядкі. У час конкурсных слуханняў, якія праходзілі 9 і 10 студзеня, былі вылучаны лепшыя калядоўшчыкі. Яны 14 студзеня займальна калядавалі ў час гала-канцэрта і ўзмацнілі святочны настрой у шматлікай публікі, сабранай у канцэртнай зале ГДК.**



Дзяўчаты са Студыі эстраднай песні Гайнаўскага дома культуры



Калектыў «Жэўжыкі» бельскай «тройкі»



Гайнаўская белліцэйская «Знічка»

— У час Гайнаўскіх сустрэч з праваслаўнай калядкай прадаўжаецца традыцыя калядавання і прывіваецца любоў да яго дзеткам і моладзі. Многія маладыя калядоўшчыкі, якіх тут найбольш, стараюцца захоўваць нашы традыцыі і адначасна прэзентуюць перад публікай свае вакальныя здольнасці. Надалей ёсць вялікае зацікаўленне каляднымі сустрэчамі сярод дарослых калядоўшчыкаў, якія ўмела прэзентуюць разнародны калядны рэпертуар, — можна было пачуць у час Фестывалю «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай», арганізатарамі якога з'яўляюцца Дэканальны інстытут праваслаўнай культуры і Аб'яднанне «Любіцелі царкоўнай музыкі» ў Гайнаўцы, а таксама Гайнаўскі дом культуры. Конкурсная камісія, працу якой узначаліў дырэктар Міжнароднага фестывалю «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі» мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негрэвіч, ацэньвала мастацкі ўзровень спеву, падборку каляднага рэпертуару, яго інтэрпрэтацыю і агульную прэзентацыю калядоўшчыкаў. Гала-канцэрт удастоілі архіепіскап бельскі Грыгорый і праваслаўныя святары, стараста Гайнаўскага павета Андрэй Скепка, намеснік бургамістра Гайнаўкі Ірыней Кендысь, войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, шматлікія самаўрадаўцы і прадстаўнікі адукацыйных і культурных устаноў.

Сустрэчы з праваслаўнай калядкай стварыліся і першых пяць гадоў (1998-2002) ладзіліся ў Гайнаўскім белліцэі, а іх суарганізатарам было Гайнаўскае аддзяленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Да іх далучыўся Гайнаўскі дом культуры і ў яго канцэртнай зале праходзілі гала-канцэрты. З 2003 года «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай» ладзяць сёлетнія арганізатары. З часам сталі выступаць калектывы з Рэспублікі Беларусь. Згодна традыцыі кожны калядоўшчык атрымаў падарунак, прадстаўнікі калядных груп атрымалі дыпломы, а пераможцы — узнагароды.

— Галоўнай задачай фестывалю з'яўляецца падкрэсліванне хрысціянскага характару свята Нараджэння Хрыстовага і звязаных з ім традыцый і абрадаў. Каляднікі паказваюць духоўную прыгожасць і тэалагічную глыбіню зместу калядак, — заявіў дырэктар Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы протаіерэй Марк Юрчук.

Першымі ў час конкурсных слуханняў і гала-канцэрта выступілі дашкольнікі. З іх ліку вылучаліся дзеткі з калектыву «Калебка» Прадшколля № 1 у Гайнаўцы, якія выступілі ў касцюмах стылізаваных на народную вопратку. Падрыхтавалі іх настаўніцы Міраслава Ніканчук, Ала Супрун і Вольга Вілюк, якія вучаць беларускай мове, культуры і нашым традыцыям. З ліку вучняў пачатковых школ вылучаліся дзеткі з калектыву «Жэўжыкі» Пачатковай школы імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім. Спявалі яны старадаўнія калядкі, віталі гаспадароў характэрнымі для гэтага свята пажаданнямі, трымаючы ў руках дубовыя галінкі.

— Такія галінкі ў час Вадохрышча жыхары Арэшкава раздавалі аднавяскоўцам, віншавалі са святам. Гэтую традыцыю, якая знікла ў іншых вёсках, прадаўжае, між іншым, наш калектыў «Жэўжыкі», — заявіла яго мастацкі кіраўнік, настаўніца-бібліятэкарка Анна Фіёнік.

Многія калядоўшчыкі зрабілі стаўку на мастацкі ўзровень спеву. Так зрабілі гайнаўскія белліцэісты з калектыву «Знічка», якіх падрыхтавала Паўліна Скепка. Удала калядаваў таксама хор Пачатковай школы № 1 у Гайнаўцы, які таксама падрыхтавала Паўліна Скепка. Арыгінальна і цікава калядаваў калектыў «Лясныя ноткі» Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы, якім кіруе настаўніца беларускай мовы Марыя Крук.

— Я прапанавала вучням дзве даўнія калядкі. Выканалі мы таксама новае сцэнічнае афармленне. Калядкі выконваюць вучні пятага класа, — заявіла Марыя Крук.

Цікава атрымаліся выступы калядных груп у старадаўняй манеры. Выходзілі яны на сцэну апранутыя па-зімоваму, у кажухі і вопратку стылізаваную на даўні лад, з прыгожа абклеенымі звёздамі. Так калядавалі, між іншым, калектывы «Званкі» Гайнаўскага дома культуры і «Чыжавяне» з Чыжову.

— Згодна традыцыі нашы калядоўшчыкі трымаюць у місцы і рэшаце тое, што падарылі ім гаспадары пасля спявання калядак. Адна з нашых вучаніц прынесла прыго-

чытайце ☞10





# Пуціна і балота

15 студзеня многія беларусы выдыхнулі з палёгкай. Не, курс беларускага рубля не скокнуў уверх у дачыненні да сусветных валют. Не, Еўрасаюз не адмяніў для грамадзян Беларусі віз. І, канешне, начальнік дзяржавы РБ не адмовіўся пайсці абірацца на чарговы, усе ўжо збіліся які па ліку, прэзідэнцкі тэрмін. А адбылося ўсяго толькі штогадовае пасланне начальніка суседняй маскоўскай дзяржавы да свайго народа і адначасна, можна лічыць, і да ўсёй сусветнай супольнасці. Апошні год надзвычай многа гаварылася і пісалася пра тое, якім чынам Уладзімір Пуцін будзе праводзіць транзіт сваёй улады. Сярод іншых варыянтаў цэлы час фігураваў і прыхаваны аншлюс з далучэннем Беларусі да Расейскай Федэрацыі. Тым больш, што так званая саюзная дзяржава існуе — калі не да канца ў рэальнасці, то на паперы дакладна. Маўляў, ствараецца аб'яднаная дзяржава, народы зліваюцца ў інтэграцыйным экстазе, а адлік прэзідэнцкага тэрміну Пуціна лагічна пачынаецца спачатку.

Дык вось выдыхнулі беларусы з палёгкай таму, што крамлёўскі чэкіст нумар адзін афіцыйна дэклараваў іншы варыянт далейшага афармлення сваёй улады, які ўмоўна называюць казахстанскім. Пуцін нібыта захацеў стаць гэткім расейскім елбасы (лідарам нацыі) на ўзор незабыўнага Нурсултана Назарбаева. Той урэшце ў 2019 годзе, пасля амаль 30-гадовага аднаасобнага ўладарання сваёй дзяржавай пакінуў прэзідэнцкі пост, але заняў пасаду старшыні Савета Бяспекі Казахстана, фактычна пры тым захаваўшы ўсе ўплывы. Паводле гэтага ўзору Пуцін прапанаваў расейцам змяніць Канстытуцыю і ў выніку абмежаваць уладу прэзідэнта, пачынаючы з 2024 года, калі скончыцца чарговы тэрмін яго кіравання. Новы прэзідэнт будзе абірацца ўжо толькі на адзін тэрмін. Роля парламента нібыта ўзрасце, а вось паўнамоцтвы старшыні Дзяржаўнага Савета дакладна істотна пашырацца. Гэтую пасаду, якая дагэтуль фактычна нічога не значыла, займае сёння, як вы ўжо здагадаліся, той самы Пуцін. Але з 2024 года функцыі і ўплыў старшыні гэтай структуры будуць ужо зусім не дэкаратыўнымі. Адразу крамлёўскі стратэг памяняў і ўрад Расейскай Федэрацыі, думаецца найперш з мэтай пусціць дадатковы пыл у вочы, зрабіўшы перакартоўку сваёй наменклатурнай калоды. Словам, спецаперацыя з прыкрыццём у традыцыйным візантыйскім стылі.

У сваім выступе Пуцін ні разу не згадаў на гэты раз ні Беларусь, ні яе начальніка, але гэта не азначае, што беларусам можна быць спакойнымі. Відавочна, што ўладар Крамля проста мяняе тактыку, абірае больш просты і надзейны сцэнарый трансферу сваёй неабмежаванай улады, але не сумнявайцеся, што пра Беларусь, як некалі Ленін, цэлы час думае. І не забудзецца пра нас дакладна. Проста формы ціску на свайго васала станучь крыху іншыя. Масква будзе надалей сціскаць эканамічныя абцугі вакол надзвычай залежнай ад яе Беларусі і рэальна «троліць» начальніка Рэспублікі Беларусь у інфармацыйнай прасторы з мэтай прымусіць яго канчаткова капітуляваць. Як кажа народная мудрасць, не кіем, дык паленам — усё ж тым самым дрэвам. Так што расслабляцца беларусам ніяк не даводзіцца, пагроза паглынання Расеяй нікуды не падзелася.

Адно са значэнняў слова „пуціна" — гэта пуцявіна, шлях, кірунак. Місія і сутнасць Уладзіміра Пуціна даўно зразумелая і вядомая. Гэта адраджэнне расейска-савецкай імперыі, у якой беларускаму народу належыць раствярыцца і знікнуць увогуле. Пакуль будзе пуцінская ўлада — будзе вайна і агрэсія. Доказам чаму і знешняя збройная экспансія Расеі ў жніўні 2008 года ў Грузіі і з 2014 года — ва Украіне. Беларусаў у такой пашыранай расейскай дзяржаве чакае поўны набор усяго найгоршага, што яны зведалі за доўгі час яшчэ ў царскай імперыі, а потым у Савецкім Саюзе. Маскоўская ласка добра вядомая яшчэ з гісторыі сярэдніх вякоў. Што датычыць Лукашэнкі, то ён зацягнуў нашу краіну і дзевяць з паловай мільёнаў яе жыхароў у такое балота „інтэграцыі", адкуль выбрацца будзе надзвычай складана. Але іншага шляху, калі хочам захавацца як народ са сваёй дзяржавай, як вылазіць з гэтай багны, папросту няма.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Мы ўсе сваякі

Шаноўны чытач не ведае, што мой кузін Яраслаў Качынскі, няважна, далёкі ён ці блізкі, таксама і ваш сваяк. Мы хочам гэтага ці не, сваяцтва абавязвае, незалежна ад нашай волі. Сваяк гэта сваяк. Саромецца можна, калі ён здзяйсняе нейкае глупства альбо, што яшчэ горш, ганебнае дзеянне. Але і цешыцца, калі сваяк паводзіць сябе годна. У любым выпадку, справа ў тым, што кожны чытач — мой сваяк, таму мы ўсе разам сваякі. А таксама сваякі Яраслава Качынскага. Ну, але гэта не значыць, што гэта толькі гіпатэтычная магчымасць. Просты разлік паказвае, што сваяцтва больш чым верагоднае. І ў маштабе ўсяго чалавечага насельніцтва. Аднак, перш чым прадставіць гэтыя разлікі, я хацеў бы спачатку ўдакладніць некалькі рэчаў. Нішто не звязвае мяне з Яраславам Качынскім, акрамя «матэматычнай» роднасці. Я можа не пагадзіўся б паказаць яго на маёй сямейнай фатаграфіі. Ён здзейсніў занадта шмат палітычных хлусняў, шкодных для маёй краіны і асабіста для мяне, каб даравадь яму. Ці варта зноў згадваць яго хлусні? Даказваць? Прабаваць пераканаць? Перакананых людзей не трэба пераконваць, але я хачу, каб непераканаўныя людзі нарэшце сарвалі з вачэй грубыя лускавінкі. Тыя лускі хіба архетыпічныя рэшткі па вужаку, які жыў у біблейскім Раі разам з Адамам і Евай. Наколькі я ведаю, Біблія не згадвае пра іншае стварэнне. Ва ўсякім разе, калі нашы міфалагічныя родапачынальнікі, пазбавіўшыся ад лусак на вачах, адмаўляючы падазроную блізкасць з рэптыліямі, неўзабаве ўбачылі сваё чалавечае жыццё такім, якім яно было — поўнае намаганняў, гора і трывог. Але і не без блажэнных момантаў і, перш за ўсё, надзеі на тое, што можа быць лепш. Аднак я хачу адзначыць, што ўспамінанне, — паводле біблейскай традыцыі, — Евы і Адама як продкаў усіх людзей, не мае нічога агульнага з маімі адносінамі з Яраславам Качынскім, а таксама з прэм'ер-міністрам Шыдла ці кімсьці з гэтага міфалагічна-палітычнага боку рэчаіснасці.

Кожны дзень нас турбуе шмат трывог. Мы стараемся пазбягаць магчымых няшчасцяў, незалежна ад таго, ці будуць яны вялікай, ці маленькай меры. Ну, ці значыць мера ў любым выпадку? Яе адноснасць паказвае драму дзіцяці, якое незваротна страціла любімую мяккую цацку. Яно шчыра перажывае сваю страту сапраўды на тым жа ўзроўні траўматычных эмоцый, што і дарослы чалавек адчуваючы смерць блізкага чалавека. Гэта проста пытанне маштабу. Страта «мяккай цацкі» альбо смерць блізкага чалавека непараўнальныя, за выключэннем таго, што іх правільная мера заключаецца ў тым, як мы ставімся да гэтых падзей. Маё адкрыццё, што Яраслаў Качынскі — мой сваяк, можа вымераць меркай дзіцяці ці дарослага. У любым выпадку, баліць гэтак жа. Менавіта таму я нясу поўную адказнасць за яго — як майго стрыечнага брата. Не хвалюйцеся. Ці ж я бяру на сябе занадта вялікую нагрузку? Аднак я памятаю заяву адной жанчыны: «Тое, чаго мы баімся, амаль не здараецца. Усе дрэнныя рэчы прыходзяць з ніадкуль». З ніадкуль, значыць — адкуль? Акрамя няшчасцяў, якія не залежаць ад людзей, да большасці з іх прычыняюцца самі людзі. З ніадкуль — «з чалавечага боку». І няважна, з таго, ці таго. Спосаб падліку, што Яраслаў Качынскі мой сваяк, падаю за вялікім астраномам і навуковым аўтарытэтам Карлам Саганам. Вось так: калі выказаць здагадку, што адно пакаленне ўсталёўвае перыяд 25 гадоў і ў кожнага ёсць двое бацькоў, чатыры бабулі і дзядулі, шаснаццаць прабабак і прадзедаў і г.д., то, згодна з экспанентным законам, калі мы вернемся толькі на 64 пакаленні, гэта значыць каля 1600 гадоў таму (але можна паглыбляцца), далічымся да няўяўнага ліку продкаў — у кожнага з нас ажно 18,5 квінтыльёна, нават не ўлічваючы бакавых сваякоў. Квінтыльён «адзінка» з 30 нулямі — лічба сама па сабе недарэчная! Па ўсёй зямлі не так шмат пясчынак. Для параўнання, адзін мільярд гэта «адзінка» з дзевяццю нулямі. Існаванне Зямлі ацэньваецца ў 4,8 мільярда гадоў, менш чым іх праміле прыпісваецца існаванню чалавечага віду. Гэта ўсяго ад 3,5 да 3,8 мільёна гадоў. Паводле самых сціплых падлікаў, агульная колькасць людзей, якія жывуць ад світання нашага віду да сённяшняга дня не перавысіла 160 мільярдаў. Да таго яшчэ, на жаль, яны, як і мы сёння, падманвалі, «ішлі ў бок», гвалцілі, адным словам, дагаджалі сабе. І так ва ўсіх пакаленнях. І выходзіць, што ўсе мы сваякі, за якіх мы нясем адказнасць. Цяжка ўзяць на спіну гэты цяжар непажаданага сваяцтва. Што ж, сям'ю не выбіраем. І ад яе не адхрышчваемся.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Мігруюць у Польшчу

Жывучы на небагатым Падляшшы, на ўласныя вочы маем магчымасць назіраць, як грамадзяне Беларусі з кожным месяцам папаўняюць падляшскі рынак працы. У сваіх фельетонах у гэтым месцы я не раз і не два займаўся гэтай тэмай, бо яна вельмі дынамічная і мае сваё адрозненні ад, напрыклад, паўсюднай украінскай міграцыі. Вось на мінулым тыдні Установа па справах чужаземцаў аб'явіла чарговыя даныя, у тым ліку ўзроставую статыстыку мігрантаў у польскую дзяржаву. Амаль сем на дзесяць чужаземцаў з правам на пражыванне гэта асобы ва ўзросце да 39 гадоў. Абсалютную большасць сярод іх складаюць украінцы. У 2019 годзе колькасць чужаземцаў з важным правам на знаходжанне дасягнула ліку 423 тысячы і ўзрасла на 50 тысяч. Галоўная ў гэтым заслуга згаданых раней украінцаў, якіх афіцыйна тут 214,7 тысячы, значыць у параўнанні з 2018 годам больш на 35,6 тысячы. Дзякуючы чужаземцам, якія звязваюцца з Польшчай, маем крыху працэсу амаладжэння нашага грамадства. Кожны восьмы мігрант (12%), не мае дваццаці гадоў, а найбольшую групу складаюць асобы ва ўзросце 20-39 гадоў (57%).

Вельмі выразна расце лік аселых у Польшчы беларусаў. У мінулым годзе права на пастаяннае пражыванне атрымала 25,6 тысячы грамадзян РБ (больш на 5,5 тысячы ў параўнанні з 2018 годам). Відавочным становіцца прыток у польскую дзяржаву грузін — за мінулы год 2,7 тысячы грузінскіх грамадзян атрымалі права на пражыванне, а гэта два разы больш, чым год раней. У Варшаве і іншых большых гарадах Польшчы іх любімым бізнесам з'яўляецца адметныя сваёй выпечкай пякарні. Таксама моцна заўважаюцца грамадзяне Індыі, якіх амаль 10 тысяч легальна папаўняюць польскі рынак працы. Найчасцей максімальны тэрмін знаходжання ў Польшчы для чужаземцаў гэта трохгадовы перыяд легалізацыі, які найчасцей прадаўжаецца на чарговы тэрмін.

Давайце прыгледзімся беларускай працоўнай міграцыі. Значнае паскарэнне ў польскім напрамку наступіла цягам апошніх двух гадоў. У 2017 годзе краінай найбольшай эміграцыі была яшчэ Расія. Але менавіта яна ўжо змяніла вектар на заходні. Зразумела, што лідарамі ў з'язджанні беларускіх грамадзян за мяжу з'яўляюцца памежныя вобласці — Брэсцкая і Гарадзенская. Прычына перш за ўсё заключаецца ў некарысным для беларусаў у фінансавым плане ўнутраным рынку працы. Заробкі ў беларускай дзяржаве ніжэйшыя ў чатыры-пяць разоў чымсьці ў Польшчы, а кошты жыцця захоўваюцца на падобным узроўні, пры чым цана некаторых прадуктовых ці прамысловых прадуктаў нават вышэйшая. У апошніх двух-трох гадах, як перадае польская штодзёнка „Жэчпасполіта", колькасць фірм пасрэдніцтва працы, якія атрымалі згоду беларускага міністэрства замежных спраў, павялічылася ў некалькі разоў. Зараз на тэрыторыі ўсёй Беларусі зарэгістраваных звыш пяцідзесяці такіх фірм, набіраючых на працу ў польскіх працадаўцаў. Характэрнай з'явай беларускай эміграцыі з'яўляецца адток высокакваліфікаваных спецыялістаў — лекараў, навукоўцаў, акадэмічных настаўнікаў. Дастаткова прайсціся па беластоцкіх шпіталях, каб натрапіць на беларускіх анестэзіёлагаў, неўролагаў, лекараў першага кантакту. Такое ж самае і ў іншых гарадах ваяводства. У працы беларускіх спецыялістаў зацікаўлены і прыбалтыйскія дзяржавы. Але ў выпадку Польшчы элементам прыцягальнасці з'яўляецца абсалютная блізкасць славянскіх моў і магчымасць хуткага яе вывучэння, а затым пераздачы розных экзаменаў у значна карацейшым часе. Немалую ролю ва ўцечцы мазгоў адыгрывае статус уладальніка Карты паляка, які дазваляе не толькі атрымаць працу, але дае магчымасці і на самастойнае вядзенне бізнесу ў польскай рэчаіснасці, нягледзячы на розныя спробы быццам бы рэфармавання гаспадаркі. Беларуская дзяржава, паводле канадскага Інстытута Фрэйзера, апынулася на 128 месцы ў ліку 162 дзяржаў, калі ідзе пра індэкс гаспадарчых свабод. Калі яшчэ ўлічыць бюракратыю, то перанос часткі беларускіх фірм у суседнія краіны будзе проста гаспадарчым манеўрам, маючым на мэце абарону сваёй маёмасці.

Яўген ВАПА

Настаўнікі роднай мовы

# Ужо сам факт, што бацькі запісваюць на ўрокі беларускай мовы, хаця часам самі гавораць па-польску, гэта вялікая дапамога ў барацьбе з асіміляцыяй



**Анна КАНДРАЦЮК** (дзявочае прозвішча Янюк) дзяцінства правяла ў вёсцы Скупава. Закончыла Гайнаўскі беларускі ліцэй, а потым беларускую і рускую філалогію на Варшаўскім універсітэце. Пасля заканчэння ўніверсітэта пачала працу ў школьнай святліцы ў Нараўцы. У час працы ў школе паступіла на паслядыпломную адукацыю і закончыла паланістыку. Ад многіх гадоў працуе настаўніцай беларускай і польскай моў. Аўтарка кніжкі „Поўна хата экспанатаў" і кароткіх фільмаў пад загалоўкам „З жыцця селяніна" (працавала разам з мужам Валікам). Лаўрэатка II месца Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы. Працуе ў Акруговай экзаменацыйнай камісіі ў Ломжы экзаменатарам па польскай мове. Шчаслівая жонка, маці, свякруха, цешча і — найважнейшае — бабуля малога Грышкі.

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Хіба, як большасць малых дзяўчатак, я са старэйшай сястрой гуляла ў школу. Найгоршае было тое, што я заўсёды была вучаніцай, ніколі настаўніцай. А мне так хацелася ставіць двойкі.

Пасля заканчэння ліцэя я ведала, што трэба далей вучыцца, бо працаваць не можа чалавек, які не мае ніякай прафесіі. А ўрокі беларускай мовы былі цікавыя, мова нескладаная, асабліва для асобы, якая гаварыць па-польску пачала ў школе. Тое, што я працую ў адпаведным месцы і люблю сваю працу, я зразумела пасля некалькіх гадоў працы ў школе.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Калі б вы мне гэтае пытанне паставілі нават ноччу, я безумоўна скажу, што спадар Васіль Сакоўскі, мой настаўнік з ліцэя. Незабыўная была яго добразычлівасць у адносінах да вучняў і вялікая цярплівасць. Ён заўсёды меў час, каб паслухаць вучня і праз чатыры гады нам ніяк не ўдалося вывесці яго з нерваў, каб хаця раз на нас крыкнуў.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Працуючы трыццаць другі год, цяжка назваць усе прозвішчы настаўнікаў, з якімі супрацоўнічала. Настаўнікаў беларускай мовы нямнога і мы ведаем, хто і дзе працуе. Калі зараз ёсць такая патрэба найчасцей звяртаюся да Валі Бабулевіч, Людмілы Грыгарук, Аліны Ваўранюк, Яланты Грыгарук ці раней да Ніны Абрамюк.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Найбольш патрэбных для настаўнікаў матэрыялаў рыхтуе АБ-БА, але цяжка сабе ўявіць працу без „Нівы" (асабліва „Зоркі"), Беларускага музея ў Гайнаўцы, БГКТ ці Культурнага цэнтра Беларусі, якія прапануюць вучням шмат конкурсаў. Новыя і цікавыя прапановы для вучняў мае фонд „Яны гэта мы".

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Раней мы закончылі праект „Мая вёска" і „Расказаць крыжыкам". У другім семестры гэтага года думаю над праектам „Дзівосы з нітак і паперы".

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Конкурс прадметны цаню найбольш. Званне лаўрэата адкрывае вучню дзверы ў выбраную школу. Апрача таго вучань „вучыцца вучыцца", а гэта дапаможа яму ў сярэдняй школе. Мае вучні часта становяцца потым лаўрэатамі Алімпіяды па беларускай мове. Так было ў мінулым годзе, калі амаль усе лаўрэаты алімпіяды былі выпускнікамі Гімназіі ў Нараўцы. Яны мне пра гэта асабіста расказалі і мы разам цешыліся іхнімі поспехамі.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Ужо сам факт, што бацькі запісваюць на ўрокі беларускай мовы, хаця часам самі гавораць па-польску, гэта вялікая дапамога ў барацьбе з асіміляцыяй.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Здавалася б, што навучанне на прынцыпе добраахвотнасці гэта козыр, аднак паводле мяне гэта складанасць. Патрэба вельмі многа працы настаўніка, каб затрымаць дзіця на ўроку, калі яго сябры ў тым часе гуляюць у школьнай святліцы. Мне здаецца, што праца настаўніка беларускай мовы яшчэ больш складаная, чым настаўніка польскай мовы.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Тры гадзіны ў тыдзень хопіць, каб зрэалізаваць праграму і зацікавіць вучняў мовай. Каб падрыхтаваць вучняў да конкурсаў, патрэбная індывідуальная праца. Для вучняў з вясковай школы складана працаваць пасля ўрокаў, таму што некаторыя з іх у школе ўжо ў 7.15 раніцы.

Каб вучні бачылі карысць з таго, што ходзяць на ўрокі беларускай мовы, я заахвочваю іх да ўдзелу ў конкурсах. Многія з іх перамагаюць у конкурсах „Пазнай Беларусь", „Беларуская гавэнда", „Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы" ці „Роднае слова". З ахвотай прымаем удзел у новых конкурсах, арганізаваных „Нівай" — „Мой герой — беларус", ці фондам „Яны гэта мы".

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— У нашым класе вісіць плакат з прозвішчамі вучняў пачатковай школы і гімназіі, якія сталі фіналістамі і лаўрэатамі прадметнага конкурсу. У мяне 45 лаўрэатаў і 18 фіналістаў. Узяўшы пад увагу колькасць вучняў, якія ходзяць на ўрокі беларускай мовы, я лічу, што мы праз некалькі гадоў добра супольна папрацавалі.

З прыемнасцю ўспамінаю таксама конкурс па польскай мове, калі мая вучаніца была адзінай лаўрэаткай з Гайнаўскага павета.

**— Ці паводле Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Параўноўваючы падручнік па польскай мове з падручнікамі па беларускай мове, бачна, што кніжкі для старэйшых класаў недапасаваныя. Тэксты ў іх доўгія і яны страшаць вучняў, мала ў іх таксама цікавых практыкаванняў. Калі даўней вучні гаварылі ў хаце па-свойму, яны ўсё разумелі і чыталі нават доўгія тэксты. Зараз усё памянялася. Але няма што крытыкаваць, калі сама нічога ў тым накірунку не зрабіла.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Я вучу ў старэйшых класах і ўжо прывыкла, што часта трэба карыстацца рознымі крыніцамі і ў мяне няма любімага падручніка. Многа цікавых рэчаў можна знайсці ў інтэрнэце.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Чытаю кніжкі розных аўтараў. Часта бывае так, што чытаю тое, пра што гавораць у медыях. З прыемнасцю чытаю творы Міры Лукшы (тут без ніякага падлыжніцтва) і вершы Веры Радзіванюк. Спадарыню Веру стаўлю вучням часам у прыклад.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Апавяданні Сяргея Давідовіча „Развод па-славянску".

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Кожны чацвер або пятніцу пачынаем ад „Зоркі" і крыжаванкі.

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Усе беларускія мерапрыемствы вельмі вартасныя, бо розныя ў людзей патрабаванні. Мне падабаюцца фэсты, ладжаныя Беларускім музеем.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Вельмі стараюся, але бачу, што на працягу гадоў ідзе гэта штораз цяжэй.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— У прошлым годзе амаль усе настаўнікі ў нашай школе „далучыліся да агульнапольскага страйку". Нас заліла хваля гейту ад сваіх людзей. Думаю, што многія нават не ведалі, за што змагаюцца настаўнікі. Ніхто не абвінавачваў міністраў, толькі нас, якія пратэставалі супраць неабдуманым зменам. Мне тады было вельмі прыкра, што адно здарэнне можа перакрэсліць многія гады цяжкай працы.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Спех у жыцці і тое, што настаўнік траціць час на бюракратыю, тоны дакументаў, замест адвесці той час на падрыхтоўку да ўрокаў.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— А ці могуць быць іншыя? Яны ўсе важныя. Гэта ж амаль „мае дзеці".

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Першую ўзнагароду дырэктара школы я атрымала ўжо пасля першага года працы. Ад нейкага часу я кожны год атрымліваю ўзнагароду дырэктара школы з нагоды Дня настаўніка. У 2003 годзе атрымала ўзнагароду Падляшскага куратара. Да гэтай пары ніколі не атрымала ўзнагароды войта гміны. А ці за працу настаўнік можа атрымаць нейкі Крыж заслугі?

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Сілу да працы дае сям'я, а натхненне — вучні. У іншым выпадку я не была б настаўніцай.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— У памяці мне засталося здарэнне, калі наша пані дырэктар са страхам у вачах увайшла ў настаўніцкую і абвясціла, што ў нулявым класе ёсць вучань, які не ўмее гаварыць па-польску. Намеснік дырэктара, спадарыня Ліля засмяялася і сказала, што няма бяды, бо расце нам лаўрэат. Мінула шэсць гадоў і гэты вучань стаў фіналістам, а тры гады пазней у гімназіі — лаўрэатам прадметнага конкурсу па беларускай мове. Хаця з іншых прадметаў не было ў яго поспехаў, ён цяжкай працай „зайграў усім выдатнікам на носе"

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Маю і гістарычныя, і сучасныя сімвалы. Першыя аздабляюць клас увесь час.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Трэба старацца, як хто ўмее, каб на тым свеце не саромецца перад нашымі продкамі.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Усё перамяняецца

Цягам апошніх гадоў у выніку цывілізацыйнага прагрэсу многае на свеце перамяняецца. Мяняюцца чалавек і натура. Дзеткі падрастаюць, даходзяць спелага ўзросту, затым старэюць. Таксама з натурай. Здаецца нядаўна садзілі маленькія бярозкі пры кузаўскай дарозе да Вулькі-Тэрахоўскай за будовамі Найбукаў, а зараз стройныя бярозы з небам гавораць. Так і з нашым жыццём бывае.

Апошнім часам друкаваліся мае тэксты аб святкаванні юбілеяў з нагоды пяцідзесяцігадовага супольнага сужонства. У ліку юбіляраў апынуўся і мой малодшы братуха Віктар. А мы з ім разам два вяселлі гулялі на Юр'е 6 траўня 1968 года. Значыцца, з таго часу прайшло палову стагоддзя. Мы абзавяліся сем'ямі. Чакаем унукаў. Мне не пашанцавала атрымаць медаль Прэзідэнта Рэчы Паспалітай за шматгадовае шлюбнае жыццё. Дванаццаць гадоў таму памерла жонка, Анна Сцяпанаўна. Дажываю ў адзіноцтве. І верыць не хочацца, што мне ўжо восемдзесят гадоў. А перад вачыма рысуецца карціна, калі мы з кінаперасоўкай ехалі ў сваты ў Дубяжына.

Прыклады прамінання з наваколля, у якім пражываем, можна прыводзіць дзясяткамі. Калісьці на чаромхаўскі рыначак носа не можна было сунуць. Квітнеў гандаль спіртным, папяросамі і іншымі таварамі. Баначку ялавічыны ці свініны можна было купіць за 8 злотых. Чарамшукі за мясам у Брэст ездзілі, паколькі намнога танней абыходзілася.

Зараз прыклады з натуры. Даўно не бывала, каб у студзені стаяла вясенняе надвор'е з 10-градуснай тэмпературай і квітнеючай расліннасцю ў ляску. Мне прыпамінаецца студзень шасцідзясятых гадоў і крашчэнскія маразы, ад якіх аж платы трашчалі. Сёлета Божае Нараджэнне каталікі адзначалі без снегу. Праваслаўным у Чаромхаўскай гміне пашанцавала. На тры дні Каляд пры нулявой тэмпературы выпаў снег. І раптам прапаў, быццам па заказе. Сіноптыкі прадвяшчаюць ацяпленне да канца студзеня. А люты, кажуць, мяцеліцай раскуты. А як будзе? Ніхто не ведае наканавання лёсу.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Гміна ў краёвым рэйтынгу

Гміна Супрасль была вылучана за дынамічнае развіццё, і апынулася ў «дзясяцы» лепшых сельска-гарадскіх польскіх муніцыпалітэтаў. Супрасльская гміна ўвайшла ў топ-10 гарадскіх і сельскіх гмін у Польшчы з самым высокім узроўнем развіцця ў 17-м выданні Рэйтынгу ўстойлівага развіцця адзінак тэрытарыяльнага самакіравання «Teraz Polska», — праінфармаваў дырэктар конкурсу «Teraz Polska» Міхал Ліпінскі.

— Мяне вельмі цешыць гэтая намінацыя. Гэта сумесны поспех усіх жыхароў нашай гміны. За паказчыкамі, якія ацэньвае камісія, стаіць напружаная праца для развіцця нашай мясцовай супольнасці, — прызнаўся бургамістр Супрасля Радаслаў Дабравольскі.

У аснове рэйтынгу, распрацаванага пад кіраўніцтвам праф. Яўгена Сабчака, ляжыць 15 паказчыкаў, якія ахопліваюць тры сферы развіцця: эканамічную, сацыяльную і экалагічную. У рэйтынг уваходзяць усе польскія гарады і гміны, а зыходны матэрыял — незалежныя даныя Цэнтральнага статыстычнага ўпраўлення. Вынікі рэйтынгу адлюстроўваюць развіццё польскіх адзінак мясцовага самакіравання і паказваюць на лідараў, разбітых на сельскія, гарадскія, сельска-гарадскія і павятовыя муніцыпалітэты.

Цырымонія ўзнагароджання дыпломамі адбылася падчас канферэнцыі «Ураўнаважанае сацыяльна-эканамічнае развіццё адзінак мясцовага самакіравання» 21 студзеня ў Калоннай зале Сейма ў Варшаве. **(лук)**

# Дзіцячыя гады ў абдымках прыроды

— Дзядзьку! Цётка ўжо падаілі? Кароў выганяйця! Зараз шостая гадзіна, — неслася рэха па ўсёй вёсцы. Гэта Сярожка з Валодзькам, пастушкі, зганялі ад гаспадароў жывіну ў статак і гналі на пашу, што на Меляшкоўскім выгане амаль у 200 гектараў. Хто не паспеў падаіць на час, трэба было пачакаць і даганяць, каб статак быў у камплекце. З каровамі пасвілі таксама коней і авечак, якія на сухім грудзе скублі свежыя зёлкі і траву. Дзецюкам пярэпаска была даволі складаным абавязкам. Трэба было пільнаваць, каб каровы не гразлі, бо было вельмі мокра, не ішлі ў шкоду і не пабарола адна другую.

Як толькі сонца ўзышло, вёска ажывала, бразгалі вёдры, банкі на малако, дымелі парнікі, па вёсцы нёсся лёскат кляпаных кос, скрып калодзежных жураваў і калаўротаў. Спявалі пеўні, курлыкалі гусі і качкі, рыкалі каровы, якім забралі цяля, іржалі коні, квічалі свінні. Гаспадары хто чым на час везлі банкі з малаком у сэтаўскую малачарню. Калі была добрая пагода, усе ехалі да сена. Кароў даводзілася пасвіць таксама і на Рабінаўцы, дзе на тарфяніку раслі сакавітыя дзяцеліна, малачай і канюшына. Помню, гэта было пад восень — да нас прыйшоў дзядзька Гарасім і кажа: «Ваня, заўтра з маім Валодзем пажанеце пасвіць на Рабінаўку! — і дадаў: — Па такой пашы малако рэчкай пацячэ!» Супрацьставіцца я не мог — галоўнай ежай на вёсцы былі хлеб, малако і яйкі, мяса на святы елі. Карова была карміцелькай радзіны.

І ўжо раніцай рагатая смаліха караваправаднінка вяла статак у рай прыроды. На балоце ў гушчарах лазы і альшыны вялося мноства птушак, чырыкалі кулікі, ныралі ластаўкі, жалобна пагіквалі кнігі. Кружылі буслы. Крумкач, седзячы на старой бярозе, пагрозліва чатаваў на мышыныя ахвяры — іх шмат вялося ў цёплым тарфяніку. Тарфяныя равы, якія лучыліся Тартачным ровам, кіпелі ад рыбы. Цёплая вада і шмат чарвей давалі ежу да росту карасёў, ліпёў, ментузоў, шчупакоў і акунёў. Аднак, калі пачалі сыпаць на балоты патасовую соль, — як расказвалі, — на густую расу, ад гэтай атруты вылазілі піскуры і гадзюкі, якія потым у страшных муках высыхалі на гарачым сонцы.

Загнаўшы статак на месца, мы паснедалі — таўканіца з малаком смакавала. Адпачывалі — наглядалі як пасвяцца каровы паміж тарфяных раваў, цяляткі пільнаваліся сваіх мамаў.

Сонца падымалася вышэй, стала дакучаць гарачыня. Бзыкалі авадні, мухі і слепакі, якія накідаліся, кусалі жывёлу, якая рабілася неспакойнай і наравістай, каровы перапіхаліся рагамі і перабягалі з месца на месца.

— Валодзя, чуяш? Штосьці вялікая баўтанула ў роў! — крыкнуў я і мы рвануліся бегчы ў тое месца. Тое, што мы ўбачылі, адняло нам дух і валасы сталі дубам. У глыбокім тарфяным рове плавала карова — Жучка цёткі Веры. Ад жаху і перапалоху нам закруціліся ў вачах слёзы — гэта было нечаканае як гром з яснага неба. Праз галаву маланкай праляцела думка: «Будзе вечарам у хаце!»

— Валі ў роў тарфяныя цагліны! — крыкнуў Валодзя. — Завалім роў і карова сама вылезе.

Пачалі мы дружна спіхваць і кідаць усё з берагу.

— Што мы робім! — крыкнуў я. — Бачым, ужо толькі рогі тырчаць над мутнай вадой. — Здымай пасак ад нагавіцаў і вяжы за рогі, будзем выцягваць.

Аднак гэта не было на нашы сілы — папруга парвалася і мы заплакалі ўголас.

— Бяжы да бацькоў! — крыкнуў у роспачы Валодзька.

— Іх няма ў хаце, сушаць сена на Рэзях! — заплакаў я і выцер засмарканы і чорны ад торфу нос.

— Ну то ідзі пільнуй кароў, а я папру на дарогу, што з Сэтаў у Кухмы і Забагны вядзе, можа, будзе хто ехаць!

І гэта было добрае рашэнне. Неўзабаве ад сена ехала трох мужчын на абед баляновым возам. Я замахаў рукамі:

— Паночкі, станьце! Ратуйце! Карова топіцца! Памажэця!

— Дзе? — адгукнуўся старэйшы. — Вядзі мяне. А ты едзь возам, вязі жэрдку і шукай доўгіх друкоў! — кінуў вазаку.

Падбегшы да рова, мы ўбачылі, што карова штораз ніжэй апускаецца ў крэкаць. Відаць было толькі яе мызу і храпы, з якіх валіла пена. Спіхнуўшы на бакі тарфяны бераг, каб пацякла вада, мужчыны жэрдкай і друкамі, супольнымі сіламі выцілі нашу кароўку на сушу. Ура! Уратавалі! Мы павесялелі — зваліўся камень з сэрца.

— Маеця шчасце, заменкі, што на нас трапілі! — сказаў старэйшы вазак. А то была б вялікая бяда — такая карова каштуя нямала грошай, і срака была б бедная!

— Ах, дзядзечкі, паночкі, дзякуем! Ужо кароў будзем пільнаваць як вока ў галаве! — залямантавалі мы і абнялі іх за ногі.

Карова доўгі час ляжала на беразе. Мы сухой травой выцірали аблепленую каравую скуру, а потым далучылі яе да статка і пагналі ўсіх кроў дамоў.

На другі дзень цётка Верка наракала:

— Насця, твой Ваня з Валодзькам маёй Жучкі не напасвілі — слаба я яе надаіла.

**Ян КАРПОВІЧ**

# Заклятая зямля Багдана Дудко



■ Багдан Дудко і Міхал Косць (фатаграфік) на прэзентацыі кнігі „Ziemia zaklęta" ў Міхалове ў Цэнтры гуку, фільму і фатаграфіі. Сустрэчу вяла Эдыта Росяк, новы кіраўнік Цэнтра.

**Багдан Дудко з Цісоўкі ў Міхалоўскай гміне — культурны аніматар, журналіст, паэт. Нарадзіўся ў Беластоку. Гадаваўся ў Цісоўцы Беластоцкага павета. Вывучаў польскую філалогію. На працягу 20 гадоў быў рэдактарам і аніматарам літаратурна-мастацкага часопіса «Карткі», які выходзіў у Беластоку, значнага ва ўсёй Польшчы. Рэдактар кніг, выдадзеных у серыі Біблітэкі «Картак». Аўтар тамоў вершаў «40 і 4 вершы пра каханне», «Даліна. Ад Нарвы і Свіслачы» і дзіцячых кніг «Ваўчок Маўчок» і «Бубусь Пугачок».**

Зборнік вершаў Багдана Дудко «Заклятая зямля», выдадзены Фондам «Белая вежа», — гэта цікавы і нечаканы партрэт месца і духу Падляшша. Ходзіць Багдан то там, то тут, дзе прафесар з універсітэта праехаў пальцам, паказваючы Рышарду Капусцінскаму перад напісаннем ягонай кнігі рэпартажаў «Буш па-польску», а ў ім рэпартажу «Далёка». Ён запісваў тутэйшыя словы, хаваючыся за постаццю Ані, гэтак жа, як быццам ён хапаў лісты ад лістоты, гладзіў словы сваіх калег, як мураву, хаця яны часам былі як мур. Хацеў запісаць палёт і кранальную тугу жураўлёў, страх бясстрашнага Кастуся Каліноўскага самотнага пад шыбеніцай на шырокай віленскай плошчы — ён сам, сённяшні, сучасны, памежны, бязмежны, балоцісты і ветраны-вечны. Піша вечным пяром на мятай картачцы. Для яе? «І ён усё яшчэ хацеў напісаць гэта», ды той «камп'ютар проста згас», і рука не паспявае за словам, за літарай. «Ён не хоча запісваць сцяны», той усходняй, а на сцяне яго хаты ў Цісоўцы вісіць партрэт Сакрата. Уважлівыя вочы Сакрата Яновіча сувора ўзіраюцца ў Багдана над піпкай з кароценькай цыгарэтай, накіраванай у яго «як вінтоўка». Каб хадзіць па балоце, рухомым і заўсёды розным, трэба цвёрда ставіць ногі. Хадзіць як па сваім. «Запісваць яе цела» па слядах «гэтай жывёл і расліны сталіцы». «Ходзіць бусел па балоце», наведвае вёскі, гарады і мястэчкі, як Нарва, ходзіць па радзіме. А над яго радзімай ляцяць чайкі, гусі, кнігаўкі, сойкі ходзяць і лётаюць над сваёй і радзімай, азываецца да яго сава... Гэтая зямля не праклятая. Таму што яна жывая, жывучая па сваіх таемных прынцыпах і праўдах. Яна не праклятая. Бо хто адважыўся б яе праклясць? Мусіў бы спазнаць яе і адважыцца яе прыручыць. Каб зрабіць гэта, ён павінен мець слова. Ключ. Загавор. Тыя, хто ідуць «ненаўмысна, безразважна», не адкрыюць яе. Яны яе не адчыняць, тую, над якой «дождж ідзе ад вечных хмар», тыя, што не ўхапіліся за жураўліны ключ. Яны не будуць глядзець уніз, як «шэра-цёмныя жураўлі» на мурашнік людзей. Як Птахі. І той «захапляючы дых напеў» там, дзе людзі хочуць быць падобнымі на птушак. Выбрацца б адтуль, але ж цябе тут нічога не стрымлівае, нават «яблыні каля твайго дому» — і так усё роўна вернешся, абдымеш сасну-сястру, пойдзеш па мокрым лісці — дойдзеш да сябе. Заспяваеш з дзядзькам з гармонікам, што сэрца не камень. Сэрца як чалавек, як бусел. Ад вады, балота, травы, пёраў, ветру, вёснаў. Я даю слова. Багдан дае слова. Як чытачка гэтай кнігі і дзяўчына згэтуль, я шчаслівая, што атрымала такі каштоўны падарунак, важны для мяне і Падляшша.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Паехаць, каб зразумець беларускасць



**Большасць вучняў школы ў Залуках мела свежыя пашпарты, якія зрабілі адмыслова пад паездку ў Берасце і да Дзеда Мароза. „А там будзе снег?», — пыталіся яшчэ ў аўтобусе вучні. Снегу не было, так як і ў нас, а рэзідэнцыя Дзеда Мароза была таго дня шэрая з-за цёмных хмар і дажджу. Магчыма таму гаспадар прысвяціў вучням толькі некалькі хвілін. Снягурачка завяла крыху расчараваных дзяцей пад хатку, у якой кожнага чакаў святочны пернік.**

— Нават я ўжо больш размаўляю пабеларуску чым яна, — сказала Юлька, вучаніца чацвёртага класа.

Аднак малодшым дзяўчынкам, з трэцяга і другога класаў, вельмі спадабалася вопратка Снягурачкі і пасля яшчэ доўга ўздыхалі, успамінаючы яе прыгажосць. На шчасце іншы казачны персанаж у рэзідэнцыі Дзеда Мароза размаўляў з дзецьмі на роднай мове. Чамусьці гэта была сястра Бабы-Ягі — Каргота. Але ўжо не так спадабалася дзяўчынкам яе знешнасць і таму хутчэй за ўсё атаясамліваліся яны са Снягурачкай.

— Гэта не быў сапраўдны Дзед Мароз, — сказаў у аўтобусе Данель, вучань пятага класа.

З такой выснoвай мы паехалі ў бок Камянюкоў, каб пабачыць старажытную Камянецкую вежу.

Камянец, гэта горад у якім па сёння відаць уплывы розных культур. Невялікія драўляныя хаткі, яўрэйскія будынкі і тыя, якія былі пабудаваны палякамі ў міжваенны перыяд. Наш экскурсавод Яўген Скрабец расказаў неверагодную гісторыю вежы, якая сягае XIII стагоддзя. Такой няма больш ні ў самой Беларусі, ні ў суседніх дзяржавах.

— Якім цудам вежа захавалася да сёння?— дапытваўся Оскар з чацвёртага класа.

Ужо пасля вяртання ў школу чуліся на калідоры расказы, што сцены вежы мелі два метры таўшчыні і ніхто не змог іх разбурыць.

— Берасце большае за Варшаву, — сцвердзіў Данель, аглядаючы горад з-за шыбы аўтобуса.

Запаведнік, рэкі, вяслярны канал, цэрквы і высокія шматпавярховікі зрабілі на ўсіх вялікае ўражанне. У гэтым горадзе вучні маглі зрабіць сэльфі са шматнацыянальным паэтам Адамам Міцкевічам, але таксама з Тарасам Шаўчэнкам. Тут Максіма Багдановіча чыталі на сцяне шматпавярховага будынка і пераносіліся ў Берасце XVII стагоддзя дзякуючы муралу. З-за пластоў фарбы і тынку маглі прачытаць польскія анонсы, якія засталіся тут па паляках у міжваенны перыяд, а таксама кінатэатр, які паглынуў яўрэйскую сінагогу. Не, гэта не ўсе дзівосы. У час вечаровага шпацыру па Берасці можна сустрэць ліхтаршчыка, які падпальвае ліхтары ў цэнтры горада, анёлаў і велізарную ёлку з футболкай наверсе.









Хаця першага дня Берасце прывітала нас дажджлівым надвор'ем, назаўтра вучні ў сакавіцкай аўры пазнавалі старажытны горад. Каб яго пабачыць, адначасова трэба зразумець гісторыю Брэсцкай крэпасці.

— Але галава, — чуліся галасы дзяцей, якія ўжо здалёк пабачылі манумент „Мужнасць".

Усё-такі танкі, помнік ці вечны агонь не зрабілі на вучнях такога ўражання як маладыя вартаўнікі.

— Я думала, што гэта скульптуры, — сказала здзіўленая Вікторыя. — Як можна цягам паўгадзіны не рухацца? Нават рукой? — дапытваў экскурсавода Корнэль.

Дзецям пашанцавала настолькі, што маглі прыглядацца змене вартаўнікоў, якія былі амаль аднагодкамі старэйшых вучняў залуцкай школы, што дадаткова ўражвала і даволі ярка паказвала на адрозненні ў спосабах адукацыі.

Шпацыр на берагах Мухаўца і Буга завяршыўся ў Археалагічным музеі „Берасце". Тут найбольшае ўражанне зрабілі маленькія пабудовы даўніх жыхароў таго месца, іх маленькія боты і кароўкі, якіх косці можна было аглядаць на экспазіцыі.

Нашу двухдзённую экскурсію завяршыла сустрэча з настаўнікам апошняй беларускай сярэдняй школы на Берасейшчыне Паўлам Кендысем (пра яго змаганні за захаванне беларускай мовы можна паслухаць у рэпартажы Яўгена Скрабца на Беларускім Радыё Рацыя). Сустрэча прайшла не ў школе (дырэкцыя не была зацікаўлена), а ў лесе над берагам спакойнага возера Сіпурка. Нашы вучні пазнаёміліся з вучаніцамі з Амелянца і разам жарылі сасіскі і шашлыкі, а такіх нашы дзеці яшчэ ніколі не прабавалі.

— Я толькі кусочак дастаў, але і так Данель вырваў мне з рук, — скардзіўся Куба.

Хаця вучні наракалі, што надта хутка з'ехалі з вогнішча, у Залуках нас ужо сустрэла ноч.

Пасля экскурсіі ў школе вучні дзяліліся сваімі ўражаннямі — адным спадабаўся бард, які ў цэнтры Берасця заспяваў „Тры чарапахі", іншым — Белавежская пушча, а яшчэ іншым святлафоры, якія адлічваюць час. Самае галоўнае, што дзеці любяць і можа пачынаюць разумець беларускасць, а тым самым і сябе.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі




# Калядкі са «Званкамі»

Калектыў «Званкі» Гайнаўскага дома культуры пад кіраўніцтвам Веры Масайлы вядомы з беларускіх тэатральных і абрадавых мерапрыемстваў ва ўсім Падляшскім ваяводстве, з выдатнымі вынікамі як калектыву, як і паасобных акцёраў. Прыехалі яны таксама ў Беласток не першы раз на агляд калядных калектываў «Гвязда і калядка». 12 студзеня выступілі апранутыя як сапраўдныя вясковыя каляднікі, з прыгожай гвяздай. Не адзін калектыў прыехаў на агляд з бясснежнай падпушчанскай Гайнаўкі.

— Мы сягоння прывезлі старадаўнія калядныя песні «В стране иудейской» і «Спі, Ісусе, спі», якую дзеткі вельмі перажываюць — тут і пра радаснае нараджэнне Святога Дзіцяткі, і пра Яго місію, і трагічныя падзеі жыцця ды перажыванні Матулі.

— А «Неба і Земля»! — дадаюць дзяўчаткі. — Гэтую самую вядомую калядку ўсе спявалі на пачатку агляду. Уся зала спявала! Такі наш «святочны аркестр» для падтрымкі душы.

— Ехалі мы сёння спецыяльным заказным аўтобусам, разам з дзяўчатамі пані Віты Кацюбайлы, якая заснавала ў нас малады гарадскі хор, — разам і вернемся. Бо так забрацца на агляд было б цяжка — усе нашы кажушкі, кошычкі, строі важаць нямала. Бо выступленне павінна быць сапраўднае, каляднае, традыцыйнае. Каларытнае. Дарэчы, калі едзем на беларускія выступленні, дык наша абсталяванне, уся сцэнаграфія — вельмі багатая. Там і шырмы, і абрусы, і макаткі, ну і гармонік, вядома.

— Любім выступаць з паняй Верай! — усміхаюцца «званкі». Зараз на сцэне — ані крышку «трэмы», а адна радасць да спеву на славу маленькага Збавіцеля, які прыйшоў дзеля ўратавання свету Любоўю. **(лук)**

*Стары Дзік*

## Дзіч дзіка

Ранняю парою
з пушчанскіх нетраў
прыйшоў да вадапою
дзік вагою ў тры метры*.
Няспешна сунуўся
лугавымі хмызамі,
шэрсць на ім іскрылася
прымаразкавымі імглами.
У суцішшы ўглядаўся
свету зямному,
знянацку тры кулі
патрапілі ў сэрца яму.
Адвечным клічам крыві
апошнія свае сляды
адвёў у той бок,
адкуль дзічыны статак
вядзе свой род.
І перад ім
у той хвіліне
жыцця-імгненні
сваёй красой рассыпаліся
раннія сонца праменні.

** Метр — у гэтым выпадку мера вагі, а не даўжыні, роўная ста кілаграмам. Значыць, дзік важыў трыста кілаграмаў. Вага ў метрах лясных і хатніх жывёл ці збожжа па сёння папулярная сярод беларусаў Падляшша.*

**УВАГА КОНКУРС!**

**№ 04-20**

**Свечак многа гарыць, а ніводнай не патушыць.**

**З....**

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 9 лютага 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на адгадку № 52: мяккі знак. Узнагароды, наклейкі з беларускімі карцінкамі, выйгралі Оля Кардаш, Марта Петручук, Тамаш Ваўранюк з Нарвы. Віншуем!**

№ 04 [26-01-2020]

# Міфы
## старажытных беларусаў

**Зоркі** — нябесныя свечкі, якія запальваюць анёлы кожны вечар, або тады, калі нараджаецца чалавек. Старажытныя беларусы верылі, што калі паміраў чалавек, то анёлы гасілі яго свечку і тая падала з неба. Зорка памерлага грэшніка падала адразу дадолу, а справядлівага чалавека ляцела ўбок або ўгару. Зоркі таксама ўяўлялі як душы памерлых, якім Бог дазволіў з вышыні пабачыць сваіх жывых сваякоў.

По зорках варажылі і падказвалі лёсы людзей, гадалі, які будзе наступаючы год. На Падляшшы яшчэ жыве павер'е, што калі на Каляды зорнае неба, год будзе плённы і плодны, а палі і лугі расквецяцца ўраджаем. Святло ясных зорак у Чысты чацвер (перад Вялікаднем) лічылася вельмі спрыяльным, таму ў гэты час пад зорнае неба выстаўлялі прыгатаванае для сяўбы насенне і соль, каб яны набылі засцерагальныя ўласцівасці.

У народзе верылі, што калі хтосьць знаходзіў зоркі на зямлі і насіў у аздабленнях, то іх хараство было бачна толькі іншым людзям, а сам уладальнік прымаў іх за просты камень. Верылі, што бляск зорак добрых людзей больш ясны, а зорка грэшніка ледзь свеціць ці нябачная зусім. Пра апошняга гаварылі, што ён — «шэльма з-пад цёманае зоркі».

У песнях і загадках месяц выступаў апекуном зорак на небе. Яго параўноўвалі з пастухом, які пасвіць тысячы авечак. У прыпынепе зоркі лічылі дзяцьмі маці-сонца і бацькі-месяца, якія паводле ўяўленняў нашых продкаў былі ідэальнай парай.

(Адрэзак адрэгаваны на аснове кніжкі Алены Коршак *Беларуская міфалогія для дзяцей*)

**(гак)**



# Адкуль Скупава



Дзяўчаты з Нараўкі, вучаніцы Анны Кандрацюк

Аднойчы прыйшоў да нас дзед Раманчук. Гэта быў стары чалавек, якому, як казалі людзі, было сто гадоў. Мы, маладыя хлапчукі, абступілі дзеда і сталі пытацца:

— Дзедку, колькі вам лет?

Дзед паставіў кульбаку ў куточку, сеў на лаўку каля стала і сказаў:

— Дзеткі мае, у мяне за плячыма больш за дзевяноста гадоў.

— А чаму наша вёска называецца Скупава?

— Яе так называюць, — пачаў дзед, — не таму, што тут жывуць скупыя людзі.

— Цікава. Раскажыце?

— Даўным-даўно тут быў двор. Стаяў ён на ўзгорку на касой дарозе, што ідзе на Сухадолы. Гэта паміж Смольным і Бондаравым Кутом. Пад узгоркам была крыніца, працякала рэчка, быў там рыбны стаў. Двор згарэў. Тады зямлю распрадалі людзям. Вось, можа таму наша сяло і назвалі Скупава, бо зямлю скуплялі людзі з розных старон. З двух бакоў пушчы.

Спярша Скупава было адно, а пасля раздзялілася на Старое і Новае Скупава.

Калі тут лес быў высечаны пад поле, то ніхто не памятае. Толькі чуў я ад старых людзей, што руская царыца Кацярына падарыла Скупава свайму фаварыту і палкаводцу Сувораву.

*(Паводле «Легенды і паданні», там спасылаюцца на «Ніву» як на крыніцу).*

**(гак)**

*Сяргей Чыгрын*

## Сон

Засні, мая дзяўчынка,
Прысні салодкі сон.
Хай дзіўная іскрынка
Раскрые парасон
Чароўных добрых казак,
Пяшчотны ціхі свет.
Няхай з табою разам
Бабуля будзе й дзед,
І мамачка, і брацік,
Ну і, вядома ж, я.
Прыйдзе зімовай сцюжай
Вясна вясёлая.
Прачнешся — пойдзем рана
Гукаць красу-вясну...
Пакуль ты спіш старанна —
І я з табой засну.

## Польска-беларуская крыжаванка № 04-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 52-2019:**

Каляднік, дом, прэса, тост, сасна, равеснік, землятрус, кара, прарок, атам. Круты, пуп, сказ, янот, вепр, дух, масляк, песня, нітка, дэмакрат, нос, ура, мара, сам.

Узнагароды, **каректары**, выйгралі **Дамінік Грэсь** з Залук, **Вікторыя Залеўская, Дамініка Залеўская, Наталля Касцюк** з Орлі, **Магда Якубюк, Юліяна Высоцкая** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Куба Авярчук, Габрыся Красько** з Арэшкава, **Мая Тапалянская** з Нарвы. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Dzban / Bieg | Gałąź | | | | Martyna | | | |
| | | | Jaś / Tęsknota | | Smak | | Baba ... | | |
| | Otawa | | | | | | Humor | | Ach! / Strzecha |
| | Łuk | | | | Flaga | | Hazard | | |
| Mgnienie | | | | Start | | | | | |
| | Narcyz | | | | | | | | |
| | Plus | | | Jana | | | | | |
| | Ślina | | | Groch | | | | | |
| | | | | | | | | | |

**6. Вясковы лекар**

Частка 12

# Генетычны алфавіт



Альфонс Іосіфавіч Шляйхер назіраў усход сонца над вёскай праз акенца свайго кабінета ў калгаснай амбулаторыі абсалютна без энтузіязму. Як праз амбразуру танка назіраў. Яго бранiраваным ад навакольнага свету танкам быў кабінет, што размясціўся ў старым цагляным будынку, былых гаспадароў якога ў вайну нямецкія салдаты вывезлі ў невядомым кірунку. Пасля вайны калгаснае кіраўніцтва спрабавала зрабіць з будынка і склады, і вясковую краму, але спыніліся на амбулаторыі. І то ў двух невялічкіх прахадных пакоях. Рэшта пакояў пуставала.

У адным з абжытых пакояў паставілі крываногі стол для фельчара, невялічкую шафу для медыцынскіх прылад, рукамыйнік, керагаз, пару крэслаў і бюст правадыра ўсіх рабочых і сялян Уладзіміра Ільіча Леніна. У другім — кушэтку для цяжкахворых. Закуранымі сценамі і столлю ніхто асабліва не займаўся. Столь і сцены зверху і да паловы памалявалі белай фарбай прама па сажы, вокны таксама замазалі белай, часткова і шкло запэцкалі. А знізу сцены зноў жа да паловы развэдзгалі зялёнай. Падлогу памалявалі карычневай, павесілі над дзвярамі чырвоны сцяг з сярпом і молатам і хіба што вырашылі больш не рабіць кантрасту з навакольным асяроддзем.

Нават адразу пасля свежага рамонту амбулаторыя выглядала як прамежкавая перасыльная кропка паміж зямнымі пакутамі і пазазямным пеклам. З часам гэтае ўражанне толькі ўзмацнялася. Але тут і толькі тут, за гэтымі тоўстымі цагельнымі сценамі, Альфонс Іосіфавіч мог адчуваць сябе адносна камфортна.

А гэтае велічнае відовішча ўсходу сонца над засакрэчанай вёскай яго не ўразіла ні кропелькі. Як надакучлівага крата ў яго садзе, які перакапаў усё, што толькі мог, нарабіў такое мноства купін, што чорт нагу зломіць, а сам на вынікі сваёй працы так ні разу і не глянуў. Вясковы лекар яшчэ ўчора вечарам на гэтым жа месцы назіраў захад гэтага ж сонца над гэтай жа вёскай. Уражанні былі аналагічныя ранішнім. Нуль эмоцый.

— Усё рады лету, а я не. Таму што на хрэн яно мне? — сумна прастагнаў ён вульгарнымі вершамі, якія вывучыў у беларускай вёсцы ад дзяцей мясцовага насельніцтва і зноў застыў у ранейшай позе.

Альфонс Іосіфавіч бачыў і заход, і ўсход, і як раніцай з падворкаў павылазілі лянівыя каровы, і соннага пастушка, які цягнуўся за імі, і Алену, якая спяшалася дахаты, і Васіля, які нёсся, што шалёны сабака, на працу, і калгаснага конюха Лявона, што цягнуў каня падкаваць да старога каваля Язэпа, і Язэпа, які ішоў да кузні, і ўсё астатняе, што можна было ўбачыць праз акно яго медыцынскай установы савецкага калгаса пасляваеннага перыяду. За гэтым акном, як мурашкі, мітусіліся людзі, кудысьці спяшаліся, адзін толькі доктар Шляйхер сядзеў нерухома, як бюст Уладзіміра Ільіча Леніна ў яго кабінеце, і сумна назіраў за чужым жыццём.

— Пры чым тут Ленін?! — задуменна прастагнаў вясковы лекар, як яго патухлы позірк нечакана зачапіўся за бюст, а думкі не зачапіліся ні за што іншае. — Божа мой! Ну, што тут робіць гэты безгустоўны твор антымастацтва?! Хто яго сюды паставіў? Ну, навошта яго выява ў медыцынскай установе? Што яна сімвалізуе тут? Перамогу марксізму-ленінізму над медыцынай? Ну, што вы на гэта скажаце?! Ён жа людзей не лячыў! Эх! Пхнуць гэтыя бюсты паўсюдна, абы ўпхнуць! Ён тут пасуе да бінтоў і клізмаў, як кулак да вока. Каб яны мелі такую магчымасць, то і ў грамадскай прыбіральні паставілі б не адзін, а нават два бюсты. Дзякуй Богу, што ў нас у вёсцы няма грамадскіх прыбіральняў. І ніколі не было. Бюстаў то хапае. Прыбіральняў бракуе. І ніколі іх не будзе, як і светлай камуністычнай будучыні. Усе як адна прыбіральні тут прыватныя. У кожнага селяніна свая. А яны яшчэ змагаюцца супраць прыватнай уласнасці! Цікава, калі яны ўжо пачнуць прыватныя прыбіральні экспрапрыіраваць?! І гэта не самае абсурднае з таго, што яны ўжо зрабілі і працягваюць рабіць.

Замоўк. У кабінеце павісла нервовая цішыня. Паветра было спёртае і цяжкае як галава лекара без пахмелкі. Лётала муха, і звінела крыламі ў самыя мазгі. Невыносна смярдзела перагарам. Устойлівым такім перагарам, даўнім. Хоць бутэлька з-пад партвейну, якая ганарова заняла месца ля бюста Леніна і нават была на пярэднім плане ад таго, даўно апусцела і паспела высахнуць. На падаконніку, прама перад тварам уладальніка, стаяла гранёная шклянка. Таксама пустая. І таксама сухая. Гэтак жа суха было ў роце лекара, у горле, на сэрцы і ў душы.

— Што я тут раблю? Божа мой! Што я тут раблю?! — вырваўся чарговы стогн лекара.

Зноў павісла нервовая невыносная цішыня. Але ненадоўга. Яе нечакана парушылі незразумелыя глухія гукі. Сівавалосы лекар (сівавалосы, хоць яшчэ даволі малады) горка плакаў сабе ў далоні. Гэта быў ціхі плач, які суправаджаўся стогнамі і ўсхліпваннямі. Неахайныя валасы растрапаліся, і здавалася, кожны валасок трасецца асобна.

— Што яны ведаюць пра мяне, што яны ведаюць?! Я ж лекар ад Бога! Я ж мог столькі карысці прынесці людзям, — вырвалася ў яго праз слёзы. — Я не магу тут больш быць! Не магу! Я тут загіну! Павешуся! Застрэлюся! Атручуся!

Лекар не лгаў. Аднойчы ён ужо хацеў пакончыць з сабой, скочыўшы са шматпавярховага маскоўскага дома, дзе некалі жыў, проста на парог свайго пад'езда галавой на прыступкі. Тады яго ратаваць прыехала цэлая брыгада пажарнікаў. Але як Шляйхер абгрунтаваў сваё бачанне нікчэмнасці і марнасці ўласнага жыцця той брыгадзе, то пажарнікі ледзьве не саскочылі з даху ўніз разам з ім. Ды лекар пашкадаваў семʼі змагароў з полымем, што застануцца без кармільцаў, і не скочыў. І тыя пазлазілі з даху ўслед за сваім новым гуру звычайным шляхам — па лесвіцы.

— Цяпер па мяне прышлюць санітараў, — заўважыў тады лекар. — А тых у чымсьці пераканаць ужо немажліва як піянерскую важатую. Ну што ж, у кожнага з нас свой шлях да дурдома. Мяне туды санітары павязуць сілай і будуць трымаць, пакуль не вылечаць. А яны самі пайшлі туды, добраахвотна і на ўсё жыццё. Ну, і хто з нас дурны?

У свой час Альфонс Шляйхер быў маскоўскім медыцынскім свяцілам, у ценю славы якога спяшаліся пастаяць нават тыя, хто сёння займаў найвышэйшыя пасады ў Міністэрстве аховы здароўя Савецкага Саюза. Нават сам міністр аховы здароўя РСФСР Трафімаў Уладзімір Васільевіч дазваляў яму адчыняць нагой дзверы свайго кабінета. Усё ішло як нож па масле. Кар'ера, кватэра, добры заробак, дзяржаўныя льготы, павага, перспектывы, падхалімы, сябры, сябрыпадхалімы... Усё-усё!

Малады, прыгожы, без шкодных звычак, перспектыўны, ён быў адзін з самых зайздросных жаніхоў у медыцынскіх колах Масквы. Больш зайздросны, чым лаўрэат прэміі „Герой сацыялістычнай працы", якіх было багата, а ён то такі разумны адзін. Сам загадчык кафедры Сямён Вольфавіч Кац не без канкрэтнага намеру пазнаёміў яго са сваёй дачкой, таксама будучай медычкай. Не, не проста з медычкай, а, маючы такога бацьку, з гарантавана будучай медыцынскай знакамітасцю прыгажуняй Рытай.

Але ж прыпёрла як да ветру маладому амбіцыйнаму навукоўцу заняцца генетыкай. Цягнула да гэтай навукі, як камуніста ў начальнікі. Як ваўка ў лес, як злачынцу на месца злачынства, як жабрака ў калгас... Месца сабе не знаходзіў. Лепш бы заняўся інтрыгамі, як яго калегі па акадэміі. Лепш бы зневажаў іншых, хаміў, ставіў адзнакі студэнткам праз ложак, краў чужыя навуковыя працы, увогуле, краў, хоць што: грошы, рэчы, гарэлку, закуску, ідэі, імя... Увогуле, хоць чым заняўся б, было б лепш. І ведаў жа, што генетыка не ў пашане ў гэтай краіне і для камуністычнай партыі СССР і савецкага ўрада ўяўляе нейкую, толькі ім зразумелую ці незразумелую, ідэалагічную небяспеку. Ды гэта мякка кажучы — не ў пашане была. А насамрэч занятак ёй абяцаў шыкоўныя праблемы на ўзроўні прыгод французскага марака Дантэса да таго часу, як ён стаў графам Монтэ-Крыста.

Прычыны такіх адносін да генетыкі для маладога навукоўца заставаліся неразгаданымі і незразумелымі. Неяк яго сябра пажартаваў у стылі распаўсюджаных савецкіх анекдотаў:

— Слова генетыка супадае пачаткам са словам генсек, — засмяяўся ён. — Генеральны сакратар ЦК КПСС, значыць. Кіраўнік СССР. А двух слоў, хоць нечым падобных да слова генсек, у Савецкім Саюзе быць не павінна.

Тады Альфонс Іосіфавіч добра пасмяяўся з анекдота. Пазней, як сумарны аб'ём непрыемнасцей з прычыны прыхільнасці да гэтай навукі перавысіў сумарны аб'ём гумару ў тым анекдоце, стала не да смеху.

Афіцыйна ж генетыкі ніхто нібыта ў той час і не забараняў. Яму нават між іншым намякнулі, што займацца гэтым можна, але пажадана ў сакрэтнай лабараторыі і са спецыяльным допускам. Ды Шляйхера было ўжо не спыніць, як сабаку на паляванні за зайцам. Стаў даставаць замежныя медыцынскія часопісы, перакладаць артыкулы на рускую мову (Шляйхер ведаў некалькі замежных моў), сам пачаў пісаць у розныя месцы, у тым ліку і ў замежныя медыцынскія выданні, завёў перапіску з замежнымі навукоўцамі... Ну і ў дадатак, завёў сабе кучу непрыемнасцей, разграбанне якіх хутка стала асноўным заняткам яго жыцця.

Спынілі яго навуковы пыл хутка. Як шуфлем па мордзе далі. Увогуле спынілі, цалкам і рэзка. Пазбавілі мажлівасці выкладаць у медыцынскім універсітэце. Лячыць людзей не забаранялі. Нават у савецкай сталіцы не забаранялі. Але Альфонс Іосіфавіч знерваваўся і стаў рабіць адну памылку за другой, як ушчэнт п'яны шахматыст. Пісаў скаргі, шукаў праўды і толькі яшчэ больш сабе нашкодзіў ды нажыў ворагаў. Сам Сямён Вольфавіч, як чалавек камуністычнага выхавання, неяк сказаў яму прама ў вочы, чэсна так і адкрыта, па-камуністычнаму:

— Шлёма ты, Шляйхер, ой які шлёма!

А вось яго дачка, прыгажуня Рыта, нічога не сказала. Нічога-нічога. Увогуле перастала з ім размаўляць. Рабіла выгляд, што не ведае такога і ніколі не ведала. І ганаровая натура Альфонса Іосіфавіча Шляйхера, якога ўжо ў маладыя гады называлі толькі так, Альфонс Іосіфавіч Шляйхер, а не проста там „Альфонс" ці „таварыш Шляйхер", папросту не вытрымала. І ён напісаў прашэнне, каб яго выпусцілі ў сонечную краіну Ізраіль. Там, маўляў, яму ніхто не забароніць займацца любімай справай. (Вось жа сапраўды „шлёма". Меў рацыю Кац.)

— Толькі на волі размнажаюцца думкі, ідэі і вынаходніцтвы. Толькі ад свабоды яны нараджаюцца, — растлумачыў ён свой выбар новага месца жыхарства прадстаўніку КГБ СССР, які выклікаў яго для пісьмовых тлумачэнняў свайго антыпатрыятычнага ўчынку. — А ў няволі яны не размнажаюцца, як панды і іншыя шляхетныя істоты.

Вось гэта і быў асінавы кол у яго лёс. Апошні цвік у вечка труны, дзе была пахаваная яго кар'ера, перспектывы, мары, амбіцыі, надзеі...

— Шлёма ты, Шляйхер, ой, які шлёма! — паўтарыў свае словы Сямён Вольфавіч Кац, аддаючы маладому навукоўцу яго працоўную кніжку. І дадаў: — Шлемагл ты, Шляйхер! Ой, які шлемагл!

Не-не, людзей лячыць яму не забаранілі. І месца для працы знайшлі добрае. У прыгожай, утульнай, а з пункту гледжання экалогіі і спакою то і ўзорнай беларускай вёсцы ў ваколіцах Мінска. Ну, як у ваколіцах. У радыусе ста кіламетраў. Дакладна сказаць нельга, бо інфармацыя засакрэчаная. Ну, хто тады мог ведаць, што назву гэтай вёскі хутка засакрэцяць некалькі разведак, уключаючы і сваю айчынную. І што яна стане цэнтрам інтэлектуальнага і не толькі інтэлектуальнага змагання найлепшых шпіёнаў планеты Зямля. А так то, о, якое тут паветра! А якая рэчка, рыбалка! Які прыгожы Касабуцкі лес! А які прастор неабсяжны! Усё так, як на лецішчы Сямёна Вольфавіча Каца і яго дачкі-прыгажуні Рыты. Усё так, як і ў яго магло быць на сваім уласным лецішчы недзе пад Масквой, каб не лез у тую генетыку.

Альфонс Іосіфавіч тады яшчэ не ведаў, што гэтая беларуская вёска хутка стане намнога важнейшай, чым лецішча Каца. Такой важнай стане, што яе ажно засакрэцяць. Таму і пасівеў ад новага прызначэння і новых псеўдаперспектыў у яго працоўнай кар'еры. Рэзка так. За адзін дзень.

— Бітаму сабаку не паказваюць палку, — былі яго першыя словы, як ён пераступіў парог цяпер ужо сваёй амбулаторыі. — А мне паказваюць.

(працяг будзе)

Віктар САЗОНАЎ



**Наталля ВАСЬКО**
Тарнопаль






**Уршуля МАРЧУК**
Нараўка
Гайнаўскі белліцэй

## Загад

Куды дзіцятка цябе панясе
У старонкі мараў далёкіх
І ці ты тады ўспомніш мяне
У сваіх думках глыбокіх

Ці можа будзеш смяяцца
Дзесьці пад чырвонай арабінай
Або прыгожа з ім калыхацца
Кранутыя шчырай музыкай

Я і так буду чакаць з надзеяй
Што наступны выдуманы расказ
Астанецца нашай сотай падзеяй
Неба Высокае, вось такі мой загад

## Для мяне

Не саромейся сваіх пачуццяў
Трактуй іх як новых гасцей
Пускай гэтыя горкія слёзы
Калі смутак стане ля дзвярэй

А калі шчасце ў акно загляне
Прывітай шчырай усмешкай яго
Няхай смяюцца і вочы твае
Гэта просты кірунак да сэрца майго

Смутак, любоў, радасць ды гнеў
Пускай у свет далёкі і шырокі
Пачуцці дзіўныя з сябе выкідай
Прашу, зрабі для мяне гэта толькі

## Мінулыя

Сонца
Мары
Сон
Адыходзяць
Як любоў
Да цябе
Хутка
Холадна
Без болю

## Памятаю...

Памятаю Твае словы
Якія чытала ў Тваіх вачах
Памятаю Твае вочы
Якімі Ты на мяне пазіраў
Ты ніколі нічога не гаварыў
Толькі глядзеў на мяне
І чакаў прабачэння
Думаў, што я не ведала
І ніколі не дазнаюся
На жаль
Ты памыляўся
Я ведаю пра ўсё
Пра ўсё памятаю...

## Вёска

Была маленькая вёска,
Стаяла хата,
Можа дзве,
А можа і яшчэ больш.
Побач жылі людзі.
Ніхто пра іх не ведаў,
Нічога не чуў і не гаварыў.
Дарэчы,
Вёска — гэта чалавек,
А хаты — яго пачуцці,
Якіх іншыя людзі не адчуваюць.

## Мара

Што гэта?
Гэта сон?
Не,
Гэта прага.
Прага чалавека,
Які чагосьці вельмі хоча.
Так?
А што гэта сон?
Сон ёсць тады,
Калі чалавек многа думае,
Думае пра тое,
Пра што марыць.
Я мару аб Табе
І Ты мне сніўся.

Фота Ганны Кандрацюк






Дэбют 2019

1 ☞ працяг

# Славілі Раждзжаство Хрыстовае

жа абклееную звязду, — сказала мастацкі кіраўнік «Званкоў» Вера Масайла.

— Сёння запрэзентуем аўтэнтычнае калядаванне. Апрануліся мы ва ўпрыгожаныя адмысловай вышыўкай кажухі нашых бабуль. Ёсць у нас арыгінальныя хусткі, намагаліся мы яшчэ знайсці ў Чыжах валёнкі, але безвынікова, — распавялі жанчыны з калектыву «Чыжавяне». На акардэоне падыгрываў ім Юра Ганевіч, а звяздой (дзядулевай работы) круціў Яраслаў Бялькевіч.


■ Дзіцячы хор Свята-Троіцкага сабора з Гайнаўкі

У народныя касцюмы апрануліся жанчыны з калектыву «Росы» з Рыбалоў, якія спявалі пад кірункам Адрыяны Бяліцка-Скаўронскай. Займальна калядавалі калектывы «Амафор» і «Надзея» з Дома культуры ў Пружанах.

— Наш калектыў «Надзея» з Пружан выступаў у Гайнаўцы некалькі разоў. Сёння праспявалі мы калядкі, якія з'яўляюцца пастаяннай часткай нашага рэпертуару. Цешымся разам з гайнаўянамі радаснай атмасферай каляднага вечара, — заявіла мастацкі кіраўнік калектыву Таццяна Немцава.

Харавым спевам захапілі публіку калядоўшчыкі з прыхадскіх хароў. Сярод іх высокім мастацкім узроўнем вылучыліся Маладзёжны хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, якім кіруе пратадыякан Марк Мацюка; Дзіцячы хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы (дырыжор Юсцінія Марчук) і Дзіцяча-Маладзёжны хор Успенскага прыхода ў Бельску (дырыжор Іаланта Асташэвіч).

— У нашым хоры спяваюць вучні гайнаўскіх школ. Мы штогод выступаем у калядным аглядзе. Рыхтаваў я таксама вучняў Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы да агляду, — заявіў пратадыякан Марк Мацюка.

На высокім узроўні спявалі дзяўчаты са Студыі эстраднай песні Гайнаўскага дома культуры, якой кіруе Марта Грэдаль-Іванюк. Старэйшыя дзяўчаты калядавалі ў гайнаўскіх установах, а частка з іх калядавала ў невялікіх групах па хатах.

Дырэктар Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы протаіерэй Марк Юрчук у пачатку гала-канцэрта зачытаў рашэнне журы фестывалю. Першае месца ў катэгорыі дашкольных калядоўшчыкаў заняў калектыў «Званочкі» Прадшколля № 3 з інтэграцыйнымі аддзяленнямі ў Гайнаўцы. Другое месца занялі калектыў «Лянок» Непублічнага прадшколля № 1 імя дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім і калектыў «Жамчужынкі» Прадшколля № 2 у Гайнаўцы. Трэцяе месца камісія прызначыла калектыву «Звёздачкі» Прадшколля № 5 у Гайнаўцы і калектыву «Сундучок» Непублічнага прадшколля свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Гайнаўцы. Вылучэнне атрымаў калектыў «Калебка» Прадшколля № 1 у Гайнаўцы. Сярод пачатковых школ першае месца заняў калектыў «Ранок» Пачатковай школы № 4 у Бельску. Другое месца журы прысвоіла калектыву «Жэўжыкі» Пачатковай школы з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску і калектыў «Унісоно» Пачатковай школы ў Орлі. Трэцяе месца занялі калектыў «Лясныя ноткі» Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы і хор Пачатковай школы № 1 у Гайнаўцы. Вылучэнне атрымаў хор Непублічнай пачатковай школы ў Арэшкаве. У катэгорыі калектываў калядоўшчыкаў першае месца заняў калектыў «Чыжавяне» з Чыжоў і квартэт з Гайнаўкі, якім апякуецца Марта Рыгаровіч. Другое месца заняў калектыў «Зінчка» Гайнаўскага белліцэя, а на трэцім месцы апынуліся калектыў «Амафор» з Пружан (Рэспубліка Беларусь) і Камерны жаночы хор «Архангельскі глас» з Арэшкава. Сярод прыхадскіх хароў журы першага месца не прысвоіла. Другое раўнапраўнае месца занялі Маладзёжны хор і Дзіцячы хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы. Трэцяе месца атрымаў Дзіцяча-Маладзёжны хор Успенскага прыхода ў Бельску. У катэгорыі свецкіх хароў другое месца занялі мужчынскі хор «Куранты» Бельскага дома культуры і Хор леснікоў Белавежскай пушчы, а трэцяе месца журы прызначыла хору «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры. Сярод аматарскіх калектываў калядоўшчыкаў першае месца заняла Студыя эстраднай песні ГДК, на другім месцы апынуўся калектыў «Вэрвачкі» Гміннага асяродка культуры ў Орлі, а трэцяе месца камісія прысвоіла калектыву «Анімата» Нарваўскага асяродка культуры. Спецыяльныя ўзнагароды журы прызначыла калектыву Майстэрні працоўнай рэабілітацыі і працатэрапіі ў Гайнаўцы і хору Спецыяльнага школьна-выхаваўчага асяродка ў Гайнаўцы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**




# http://xytap.by

Агратурызм, які ў Польшчы пачаў масава развівацца каля 15-20 гадоў таму, цяпер усё больш пачынае цікавіць і жыхароў беларускай краіны. І зараз ужо можна сказаць, што ён набыў дастатковыя абароты, каб лічыцца асобным рухам прыватнай ініцыятывы, якая да таго ж мае неблагія перспектывы.

Праўда, далёка не заўсёды ўладальнікі аграсядзіб прывабліваюць турыстаў нейкай беларускай аўтэнтыкай. Часцей за ўсё прапануецца звычайны адпачынак у хаце з харчаваннем, ну і астатняе дадае прырода — лес з рэчкай ці возерам. Аднак ёсць гаспадары, якія стараюцца зацікавіць агратурыстаў не толькі адпачынкам на свежым паветры. І тады яны робяць шмат чаго, каб паказаць — вы адпачываеце ў Беларусаў, у іх культуры і традыцыях. Праўда, такіх гаспадароў не надта шмат, а гэта значыць, што аб іх варта казаць асобна.

Адной з аграсядзіб, якая робіць стаўку на беларускую аўтэнтыку, з'яўляецца „Засцянак Скрыплеў", які знаходзіцца ў напрамку ад Мінска да Вільні, акурат пасярэдзіне між беларускай і літоўскай сталіцамі. Як туды дабрацца, выдатна распавядае сайт аграсядзібы **http://xytap.by**.

Увогуле інтэрнэт-прадстаўніцтва аграсядзібы выглядае даволі цікава. Так, уся інфармацыя месціцца на тле фотаздымка драўлянай вясковай хаты. З правага боку выяўлення — малюнак казла ў фуражцы з валошкай у роце. Гэты своеасаблівы лагатып адразу ўздымае настрой нават сумнаму наведвальніку агратурыстычнага сайта. Выява казла таксама выконвае функцыю звароту да галоўнай старонкі.

„Заязджайця на двор! Мы ўжо былі і зачакаліся, і на дарогу з поў дні глядзеўшы! Дзе вы прапалі тамака ў гарадох вялікіх? Але, дзякуй Богу! Ужо ж Вы ёсьціка тутака! А зараз мы для Вас маршу сустрэчнага зайграем! Ды паднясём Вам, каханыя, чаго, бо здарожыліся ж Вы, не? Выкідайце з галавы ўсякі тлум і клопат — усё — вы тутака — на нашым Засьцянку!" — на сакавітай, не надта літаратурнай беларускай мове паўжартам звяртаюцца гаспадары да патэнцыйных гасцей. Там жа, на галоўнай старонцы, можна пазнаёміцца з навінамі, якія датычаць „Засцянка Скрыплеў", дзе, дарэчы, час ад часу праходзіць гастранамічны фестываль „Капыцікі".

Што ж тычыцца абяцанага сустрэчнага маршу, то яго, ды і не толькі яго, можна пачуць, калі зайсці на старонку „Слухаць патэфон", выйсце на якую знаходзіцца ўнізе цэлага выяўлення. Там месцяцца тры мелодыі — раманс „Толькі з табою", полька-карэлафінка, марш „Да столу".

Цікавым аздабленнем сайта з'яўляецца старонка „Знаходкі з куфра". Адтуль можна патрапіць на акаўнт „Засцянку" ў „Інстаграме" і пазнаёміцца са старадаўнімі рэчамі. Гаспадары аграсядзібы, як яны самі кажуць, збіраюць калекцыю артэфактаў рэгіянальнай гісторыка-культурнай спадчыны краю. „Наша мэта — стварэнне прыватнага краязнаўчага музея. Звяртаемся па дапамогу нераўнадушных і зацікаўленых. Возьмем у падарунак альбо выкупім за невялікі ганарар рэчы гістарычнага і культурна-этнаграфічнага плану, якія не патрэбныя ў гаспадарцы, але... паліць іх не варта", — гаворыцца на сайце.

З коштамі адпачынку на дадзенай аграсядзібе можна азнаёміцца ў адпаведнай рубрыцы, выйсце на якую месціцца ўверсе выяўлення. Назваць тыя кошты нізкімі цяжка, але ў кожнага сваё меркаванне адносна дарагавізны ці таннасці.

**Аляксандр ЯКІМЮК**



ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА

# *130 гадоў з дня нараджэння* Аляксандра СТАГАНОВІЧА

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч Аляксандр Стагановіч нарадзіўся 25 студзеня 1890 г. у вёсцы Несутычы, што паблізу Гарадэчна (цяперашні Навагрaдскі раён). У сям'і Лявона Стагановіча і Паўліны з дому Родзькаў Аляксандр быў другім дзіцём. Бацька быў дастаткова заможным селянінам. Аднак неўзабаве на сям'ю абрынуліся няшчасці. Калі Аляксандру было толькі тры гады, адзін за адным памерлі дзед і бацька, які лячыўся ў шпіталі ў Вільні, а потым і маленькі брацік. У тым жа годзе ў гаспадарцы здохла чатыры валы, двое коней, пяць кароў, васямнаццаць свіней, а збожжа на полі раскралі. Як пісаў ва ўспамінах сам Стагановіч „пачалося новае жыццё, якое нельга назваць жыццём, а існаваннем".

У маладосці ў час Першай сусветнай вайны Стагановіч быў мабілізаваны ў войска і знаходзіўся ў складзе расейскага экспедыцыйнага корпусу ў Грэцыі, Італіі, Францыі. У 1920 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. Аляксандр Стагановіч хутка ўлучыўся ў палітычнае жыццё, паколькі не мог цярпець сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці. Быў знаёмы з розьнымі вядомымі тагачаснымі беларускімі дзеячамі: Антонам Луцкевічам, Ігнатам Дварчаніным, Фабіянам Абрантовічам, Юркам Лістападам ды іншымі.

У 1925 г. Аляксандр Стагановіч стаў сябрам Беларускай сацыял-работніцкай грамады. У 1928 г. вылучаны дэпутатам ад Навагрaдскай акругі ў польскі Сейм па спісе „Змагання". Аднак за два дні да выбараў яго арыштавалі і зняволілі. Толькі пасля асабістага заступніцтва маршалка Сейма Стагановіча вызвалілі. У канцы 1928 г. ён адмовіўся ад дэпутацкага мандата на знак пратэсту супраць сурпацы з КПЗБ. Праз некаторы час быў арыштаваны, паколькі страціў дэпутацкую недатыкальнасць. Стагановіча засудзілі да шасці гадоў турэмнага зняволення. У астрозе сядзеў з былымі парламентарыямі — сенатарам Васілём Рагулем і дэпутатам Сейма Юры Сабалеўскім.

Пасля вызвалення і да пачатку Другой сусветнай вайны Аляксандр Стагановіч падымаў уласную занядбаную гаспадарку. У час вайны пры нямецкай акупацыі быў кіраўніком Беларускай народнай самапомачы па Навагрaдскай акрузе, ратаваў людзей ад новай навалы. Але старэйшага сына Аляксандра ўратаваць ад фашыстоўскага канцлагера не змог — той трапіў у Дахаў, адкуль урэшце яму ўдалося выйсці жывым. Улетку 1944 г. выехаў у эміграцыю. Быў адным з ініцыятараў аднаўлення Рады БНР, браў удзел у з'ездзе ў Остэргофене, дзе было заяўлена пра аднаўленне дзейнасці Рады.

У канцы 1940-х гадоў Стагановіч выехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА), Згуртавання беларускіх ветэранаў і епархіяльнай Рады Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. З 1957 г. — намеснік прэзідэнта Рады БНР.

Памёр Аляксандр Стагановіч 28 снежня 1988 г. у амерыканскім штаце Нью-Джэрсі, мала не дажыўшы да ста гадоў. Пахаваны на беларускіх могілках у Нью-Брансвіку. Амаль сто гадоў пражыла і жонка Марыя Стагановіч, якая таксама паходзіла з Навагрaдчыны, з блізкага ад Несутычаў фальварка Косава. У сям'і было чацвёра дзяцей (Аляксандр, Лёва, Тамара, Юрка). Найбольш вядомая з іх мастачка Тамара Стагановіч. Аляксандар Стагановіч пакінуў пасля сябе падрабязныя ўспаміны, якія былі выдадзены ў Мінску ў 2011 годзе асобнай кнігай пад назвай „Успаміны пасла". Крыху пазней выйшлі і мемуары жонкі пад назвай „Мае ўспаміны".

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## У вёсках мала дрэў

Я нарадзіўся і жыву ў даволі вялікай вёсцы Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. За мінулыя апошнія 70 гадоў у сяле шмат што змянілася. Некаторыя жыхары пабудавалі новыя дамы ды ўжо не драўляныя а мураваныя. Знікаюць драўляныя платы, бронкі (брамкі) і лавачкі. На панадворках або і пры самой дарозе няма калодзежаў з жураўлямі. Былі прыдамашнія агароды з агароднінай і садкамі, а ў іх раслі яблыні, грушы, вішні і слівы двух-трох відаў, а таксама кусцікі малін, чырвоных і чорных парэчак (смуродзіны) і агрэсту. У кутках кветкавых агародчыкаў цвіў ліловы або белы бэз, чаромха, язмін.

Нашы дзяды і бацькі каля хат і сельскагаспадарчых будынкаў садзілі перш-наперш ліставыя дрэвы: бярозы, ліпы, ясені, вязы, вербы, клёны ды радзей каштаны і рабіны. І раслі яны прыгожыя. У агародзе майго бацькі расла самая высокая бяроза і каля яе ліпа. Пад імі на травяністым узмежку летам і восенню раслі краснюкі, бабкі і сыраежкі. А нядаўна мой брат ссек аграмадную раскідзістую вярбу. Колькі разоў мы яшчэ ў дзяцінстве сядзелі на яе галінах і так, як нам тады здавалася, высока-высока. Толькі ў двух выпадках пры будынках на калёніі да гэтай пары растуць шматгадовыя тоўстыя сосны-прыгажуні.

Цяпер у маёй вёсцы вельмі мала ліставых дрэў. Ссеклі ліпы і адзін здаровы прыгожы каштан. Не ўбачыце ні аднаго дуба. Не садзяць бяроз, ліп, вербаў і клёнаў. А гэта ж такія прыгожыя дрэвы. Мне яны падабаюцца, асабліва восенню. Яны маюць такое прыгожае каляровае залацістае лісце. А што садзяць? Дык вось — туі, а часам елачкі.

Рэдка хто пасадзіць пладаносную яблыньку, грушу, вішаньку або сліўку. Маем усяго тры прыдамашнія садочкі. У іх растуць устойлівыя на хваробы яблыні старых відаў — рэнета, антонаўка, каштэля, крансэлька, аліўка і малінаўка. Зараз у іх усё менш ды менш сліў і вішань. Мы ў дзяцінстве ўрываліся ў іх. Запомніліся вялікія салодкія грушы (але не кляпсы, а іншыя) ды слівы вянгерак белых і ліловых ды рэнклоды.

Мала таго, што зараз усё меншае і меншае лік жыхароў вёскі, то і дрэў у ёй менш, чым было калісьці. Усяго як на лякарства. Дзе тыя колішнія прысады? Поле зарастае лесам, а ў сяле зараз як на пустыні. **(яц)**

# Драўляныя дамы

## лепшыя для здароўя

Пацікавіўся я драўлянымі дамамі ў дзвюх вёсках пры Белавежскай пушчы — у Заблотчыне (яна налічвае 69 жыхароў) і ў Мінкоўцы (у ёй пражывае 20 чалавек) Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Абедзве яны пры павятовай асфальтавай дарозе з Падляўкова ў Нараўку. У Заблотчыне 33 дамы, у тым ліку 22 драўляныя і ў Мінкоўцы 14 дамоў, у тым шэсць драўляных. У адным і другім сяле ёсць пустуючыя драўляныя хаты. Яны, па ўсім відаць, прызабытыя.

У Заблотчыне прыгожых драўляных хат больш дзесяці, а сярод іх, між іншым, хаты Яўгена Валкавыцкага і Галіны Вяжхоўскай (у іх агратурыстычныя кватэры). Пенсіянеры (іх на вёсцы зараз найбольш) маюць свабодны час і аднаўляюць ды ўпрыгожваюць свае дамы: перакрываюць іх, ашалёўваюць, малююць. У Заблотчыне прыгожа выглядае памаляваная драўляная святліца.

У Мінкоўцы ёсць пару асабліва задбаных драўляных хат. Яны ашаляваныя. Мне спадабалася хата ў пачатку гэтай вёсачкі, калі выедзем з высокага лесу — яе архітэктура і цёплы жоўта-аранжавы колер. Вельмі люблю такія хаты. Усё тут такое простае, свойскае, мілае. Усе гэтыя вясковыя хаты абгароджаныя частаколам або драцяной сеткаю. Люблю, калі яшчэ каля хат ёсць кветкавыя агародчыкі і растуць ліставыя дрэвы — бярозы, ліпы і клёны, кусцікі бэзу, чаромхі і язміну. **(яц)**

# Белавежская дэмаграфія

Белавежская гміна Гайнаўскага павета ўся ў Белавежскай пушчы — усе восем яе населеных пунктаў. У Белавежы зараз пражывае 1640 чалавек, Грудках — 165, Чарлёнцы — 76, Тэрамісках — 68, Будах — 67, Пагарэльцах — 53, Звярынцы — 4 і Падцэркваx — 3.

У мінулым годзе ў Белавежскай гміне нарадзілася 17 дзяцей і памерлі 35 чалавек, было 19 вяселляў да юбілей 50-годдзя шлюбнага жыцця. Юбілей святкавала дзевяць пар: Марыя і Юрый Рабчукі, Надзея і Міхал Дулькі, Юлія і Ян Кшэмінскія, Генрыка і Тадэвуш Пшыгодзкія, Надзея і Віталь Шпаковічы, Гражына і Фёдар Ігановічы, Ядвіга і Станіслаў Банахі, Галена і Ірэнеуш Бохэнкі ды Анна і Рышард Камарэўскія. **(яц)**

# Нашы вёскі пусцеюць і пусцеюць

На гэтак званай Усходняй сцяне на Беласточчыне пусцеюць вёскі. Найхутчэй гэты працэс адбываецца ў Гайнаўскім, Бельскім і Сямятыцкім паветах. У іх пражывае шмат састарэлых асоб. Гэта пераважна пенсіянеры ды інваліды. Тут нараджаецца мала дзяцей. Моладзь паехала „за хлебам" перш-наперш у бліжэйшыя замежныя краіны ў заходняй і паўночнай частках Еўропы. Маладыя мужчыны і жанчыны там пачалі працаваць і астаюцца на пастаяннае жыхарства. Яны пакінулі родныя старонкі, у якіх не могуць знайсці сабе працу. Зараз у Падляшскім ваяводстве яны не бачаць аніякай перспектывы лепшага ды стабільнага жыцця.

У замежных краінах працавітыя беларусы з Беласточчыны на працягу 4-6 гадоў пабыўкі купілі сабе новыя аўтамашыны, кватэры, а некаторыя пабудавалі сабе ўласныя дамы. Я прытрымліваюся фактаў. Гэтак зрабілі замужняя дачка і двух сыноў маёй роднай сястры. Зараз яны пражываюць у Швецыі і Фінляндыі. Ці яны ўсё ж вернуцца ў вялікую пакінутую бацькоўскую хату (раней жылі ў ёй дзве вялікія сям'і)? Маюць агарод, поле, сенажаці і яшчэ шматгадовы лес. Старэйшы сын прыязджае з Фінляндыі ў свой дом ды яго нанава перакрыў і аднавіў. Ён дбае пра свой родны куток, сваё гняздо. Штодзень за домам і панадворкам наглядае ягоны добры сябра з Новага Ляўкова. Бывае, што калі наведае сваю вёску, то забірае з сабою калег, якія хочуць папрацаваць год-два за мяжой або там з ахвотай астацца.

Зараз найхутчэй пусцеюць або выміраюць вёскі на Гайнаўшчыне. Некаторыя ўжо шмат гадоў на дэмаграфічным мінусе. У іх смерць збірае свой плён. Адыходзяць ад нас перш-наперш самыя пажылыя жыхары. Яны тут пераважаюць па колькасці сярод іншых узроставых груп насельніцтва. Даволі часта паміраюць, між іншым, мужчыны-алкашы. Здараецца, што і жанчыны па той жа прычыне. Многа асоб памірае па старасці і хваробе. **(яц)**

# 26.01 — 01.02

**(22.03. — 20.04.)** 26.01. твая паспяховасць паваліць усіх; сёння можаш добра падзарабіць. Народжаныя ў другой і трэцяй дэкадзе будуць змагацца з комплексамі, з-за якіх не могуць поўнасцю цешыцца жыццём. 25-31.01. трымайся фактаў і не абяцай нерэальнага. Будзь больш памяркоўным!

**(21.04. — 21.05.)** 26-28.01. развяжуцца праблемы ў пастаянных парах. Якая праўда ў ладах з партнёрам, пераканаешся 25-31.01. Хочаш узяць крэдыт — абдумай, ці ён патрэбны. 26-28.01. добры момант парваць з кепскімі звычкамі або ўвесці ў жыццё здаровыя навыкі. Мілыя гасціны, прыёмы, банкеты, урачыстасці. Хоць будуць сітуацыі, поўныя напругі і няўпэўненасці. Будзь асцярожны асабліва на працы.

**(22.05. — 22.06.)** Працавіты час. 26-28.01. праблемы могуць затрэсці жыццём у пары; шчыра паразмаўляй. 25-26.01. у размове з шэфам выкладзі свае карты на стол. 26-31.01. не перацэньвай сваіх магчымасцей, не намагайся выйграць, бо можаш быць кантужаны, а калі маеш нарадзіны ў палове знака, не трап у небяспечную аварыю! Час збірання плёнаў, падагульненняў, але і дробных параз, якія прымусяць цябе да рэвізіі тваіх планаў і напрамкаў.

**(23.06. — 23.07.)** 25-26.01. не выкручвайся ад большай імпрэзы, не сядзі дома. Адазвуцца старыя знаёмыя, кантакты прыдадуцца. Кашалёк запоўніцца, зрабі сабе файны прэзент — належыцца табе! 25-28.01. не разлічвай на ўдалыя любоўныя заваёвы. 26-31.01. магчымыя турботы, вынікаючыя з тваёй няспеласці і бестурботнасці. Пазбягай новых фінансавых абавязацельстваў. Не бяры крэдытаў, не пазычай і не абяцай зашмат па зменах, да якіх хтосьці будзе цябе намаўляць.

**(24.07. — 23.08.)** 25-26.01. добрая форма і цікавыя прыгоды. Але 26-29.01. нявінны флірт можа прынесці сур'ёзныя паслядоўнасці. Трэба будзе памагчы ў спрэчцы сяброў ці сваякоў. Непланаваныя выдаткі могуць надшарпнуць твой бюджэт. Выплывеш на шырокія воды, паддасіся незвычайным здарэнням.

**(24.08. — 23.09.)** 26-28.01. будзеш гарачы і схільны да скандалаў. Твой партнёр запланаваў 26-29.01. штосьці такое, што проста анямееш. Але мачымыя спрэчкі з-за сям'і, якая схоча ўключыцца ў вашы справы. 26-31.01. штосьці можа папсавацца дома — спатрэбяцца камінар ці гідраўлік. 26-31.01. можаш апынуцца на прыцэле ўстаноў, якія не будуць мілыя. Не рабі нічога супраць закону! Засяродзься на самым важным.

**(24.09. — 23.10.)** 26-28.01. у пастаянных парах крыху спрэчак і непаразуменняў, але хутка пагодзіцеся. 26-29.01. будзеш схільны да адданасці, якой і так ніхто не дацэніць. 26.01. найлепшае лякарства — шчырая размова. На працы разгорнеш крылы, заззяеш талентам, спадабаешся. 26-29.01. не папраўляй сабе настрою цыгарэтамі, алкаголем ці чым там яшчэ. Лепш займіся спортам!

**(24.10. — 22.11.)** Пільнуйся ў пары — 25-29.01. можа паявіцца канкурэнцыя, і трэба будзе больш старацца. 26-29.01. будзе сантыментальна, схочацца аднавіць кантакт, які раней многа значыў для цябе. Зможаш рэальна памаладзець і прыхарашыцца. 25-31.01. не ўлезь у бесталковую інтрыгу. А 26-29.01. хтосьці можа зламаць табе сэрца.

**(23.11. — 22.12.)** 25-26.01. можаш выбрацца на цікавае абучэнне, курсы. Але 25-31.01. можа табе не хапіць адвагі. 25-29.01. можаш сустрэць кагосьці, у чыіх вачах убачыш абажанне і захапленне тваёй асобай, невядома, аднак, ці гэта шчырае. 26-28.01. не размахніся з пакупкамі, бо апустошыш свой рахунак. Стральцы з пералому II і III дэкады няхай цяпер лепш не ідуць на аперацыю.

**(23.12. — 20.01.)** Вырашыш праблемы і дасягнеш поспеху. Будуць табе зайздросціць! Будзеш творчы і несамотны, будзеш баявіты і бескампрамісны, нават у дачыненні да самога сябе. Не будзь нячулым да партнёра, бо папракне цябе ў абыякавасці да яго, недахопе тваіх стаDанняў. Не пі кавы на пусты страўнік.

**(21.01. — 19.02.)** 25-26.01. сустрэнеш аднадумца, могуць паявіцца цяплейшыя пачуцці паміж вамі. У галаву табе зойдуць цяпер нават найбольш складаныя веды. Шчасце ў каханні, упэўненасць. Не будзеш наракаць на недахоп грошай, дазволіш сабе маленькія прыемнасці. Можа паявіцца канфлікт паміж сямейнымі інтарэсамі і ўласнымі патрэбамі.

**(20.02. — 21.03.)** 26-28.01. асцярожна са «скокамі ўбок»! 26-31.01. не зашкодзь сабе сам, сур'ёзная справа! Сустрэнеш вельмі цікавую асобу (унясе яна ў тваё жыццё шмат свежасці). Больш часу чым у хаце правядзеш з сябрамі (планы наконт супольнай будучыні маюць шанц поўнасцю зрэалізавацца). Пазітыўнае стаўленне прынясе плён у выглядзе таксама неблагой фізічнай формы. Схадзі ўсё ж у трэнажорную залу, а трэнер пакажа табе лёгкія практыкаванні.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**1.** салодкі спрасаваны кандытарскі выраб з расцёртых арэхаў, сланечніку, сезаму, **2.** расце на сенажаці, **3.** распрацаваны план мерапрыемства, аб'екта, **4.** вячэрняе гулянне з музыкай і танцамі, **5.** чалавек, які дае кроў або свой орган для перасадкі хворым, **6.** напрыклад, ікол, **7.** гарадская крэпасць, у якой... Адэль, **8.** частка тулава ад шыі да рукі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | | | | | 3 |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | 4 | | 5 | 6 | | 7 | | |
| | | | | | | 8 | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 52 нумара**

„Кармен", казіно, Мерв, Беласток, Цітоў, іней, Іўе, кардыёлаг.

Рашэнне: **Сем разоў мер і то не вер**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Віраў

**У другой палове XIX стагоддзя славуты польскі этнограф Зыгмунт Глогер адбыў чатыры краязнаўчыя выправы на лодках па большых рэчках у нашым наваколлі. У тым ліку і па Бугу.**

У сваёй справаздачы пісаў ён пра яе завяршэнне: „Яшчэ раз паказаліся нам муры Драгічына з адлегласці мілі ад горада. Калі ўжо звечарэла, спыніліся мы на начлег у касцельнай вёсцы званай Веравам або Віравам. (...) Рашылі мы шукаць начлегу на віраўскай плябаніі. Засталі мы ксяндза акурат папіваючага гарбатку. (...) Спакусіла мяне ліха выгаварыцца, што вандруем з Берасця. А Берасце мела так паганую славу ва ўсіх уласнікаў лепшых коней на Падляшшы, (а пробашчы ў гэтым старонні мелі коней вельмі запатрабаваных берасцейскімі гандлярамі), што плябан адкрыта нам запрапанаваў чарку гарэлкі на дарогу, бо „па прычыне цеснаты на начлег нас не запрашае". Падзякавалі мы тады за ветлівасць і падаліся шукаць карчму...".

Канфесійная гісторыя Вірава, адлеглага ад Драгічына каля дванаццаці кіламетраў па прамой лініі ў паўночна-заходнім напрамку, даволі багатая. З самых пачаткаў, з XV стагоддзя існавала там праваслаўная царква, якая пасля Берасцейскай уніі стала ўніяцкай. У 1712 годзе ўзведзена была ў Віраве новая царква, драўляная. У 1784 годзе віраўскія ўніяты перайшлі на каталіцкі абрад. Аднак той пераход не быў надта гладкі. Уніяцкія святары так пісалі ў 1840 годзе пра гэты працэс: „Wirów i Kosów były to cerkwie parafialne z parafiami znacznemi, ruskie, należące do unii i z funduszami na utrzymanie pasterzów miejscowych. (...) Nastąpiła zmiana od lat już 50, że łacińscy księża przywłaszczyli do kościołów swoich parafian ruskich, wierowianów do Skrzeszewa, a kosowską parafię do kościoła łacińskiego w miejscu, za staraniem, namową i wzgardliwemi słowami księży łacińskich dziekanów miejscowych, (...) tak że cerkwie przywłaszczyli sobie za filie, a parafian za swoje owieczki na mazowiecki czyli łaciński obrządek. W Wirowie (...) Franciszek Kuszel w zamiarze przemówienia grekounitów na łaciński obrządek, sprowadzał łacińskich kaznodziejów, a zwłaszcza z Drohiczyna augustianów, z których jeden pod kapliczką św. Jana (...) przepowiadał: „dosyć nasłuchaliście się w swojej cerkwi Allelujów, Pomyłujów, etc., teraz zabłysnęła wam pora, że jesteście prawowitemi katolikami" i podobnie. Tenże Kuszel w posty ruskie, a nie łacińskie posyłał po chatach i u kogo nie znaleziono w garnku mięsa lub słoniny kazał bić i podobnież kiedy w łaciński post znaleziono u kogo mięso".

У 1799 годзе згаданы Францішак Кушаль пабудаваў у Віраве драўляны касцёл, які згарэў у 1830 годзе. На яго месцы ў 1836 годзе быў збудаваны касцёл мураваны, які захаваўся па сённяшні дзень. Аднак у міжчасе ў Віраве разгарнуліся дынамічныя падзеі канфесійнага характару. Пасля Студзеньскага паўстання, у 1889 годзе віраўскі касцёл улады закрылі, а раней, у 1875 годзе, была скасавана унія на тэрыторыі Кангрэсоўкі і ўніяты былі ў адміністрацыйным парадку далучаны да праваслаўя. Было гэта даволі жорсткае далучэнне, крыху іншае, чым амаль дзевяноста гадоў раней. Лекар са Стэрдыні Адам Ярасінскі так пісаў пра тыя падзеі: „Rząd za wszelką cenę tę odporną ludność postanowił uczynić prawosławną, stosował środki gwałtowne, a gdy to nie skutkowało, działał podstępnie. Za ochrzczenie dziecka, wyspowiadanie unity lub udzielenie ślubu, księży surowo karano grzywnami, deportacją, nawet zamknięciem kościoła. Bardziej wpływowych opornych unitów wysyłano w głąb Rosji lub na Syberię. Policjanci nocami przebiegali wioski i siłą rozdzielali małżonków lub przebrani w cywilną odzież, zgłaszali się do księży, podstępnie prosząc o danie ślubu lub chrzest dziecka. Podczas poświęcenia kościoła w Ceranowie [...] wyłapywano unitów i przeszło 200 ich osadzono pod kluczem w jakimś magazynie. Ja sam w 1879 r. byłem świadkiem sceny w sterdyńskim kościele, gdy strażnik Poświniuk za kołnierz odciągał unitów, przystępujących do stołu pańskiego. Około 1870 r. do wsi Hołowienki sprowadzono z Siedlec oddział wojska złożony z 2. szwadronów, który przez jakiś czas żył na koszt wsi, wyjadał gospodarzom wszystko zboże, rogaciznę i chlewnię, a gdy upór nie ustawał, wypędzono ludność wsi na drogę i zmuszano zbierać rękami śnieg na ulicy. Trudno opisać wszystkie męki, jakie dzielny ten lud przeniósł. Nie strzelano tu wprawdzie do modlących się, jak w Pratulinie, niemiłosiernie jednak znęcano się nad ludem, który pragnął swobody wyznania. Wszelkie represje i podstępy nie złamały tego dzielnego ludu, który okazał się twardą skałą, o którą rozbijały się wszelkie zakusy zaborczego rządu".

Плябанія, даўней царква Серафіма Сароўскага

Галоўны будынак

Ад Буга прыступкі вядуць у касцёл

Намагільнік архімандрыта Аркадзія

Пазней царскі ўрад рашыў дзейнічаць больш памяркоўна. У 1894 годзе ў Віраў прыбылі праваслаўныя манашкі з нядаўна зладжанага манастыра ў Лясной, што каля Белай-Падляшскай. Гэтая манаская місія атрымала выдатную дапамогу тагачасных расійскіх знатнасцей, у тым ліку і самога цара Мікалая II, які прызначыў дастатковыя сродкі для ўзвядзення там манастырскага комплексу. Ранейшы касцёл быў ператвораны ў царкву Хрыста Збавіцеля, да таго ж пабудавана яшчэ адну царкву — Серафіма Сароўскага, жылы і іншыя будынкі. Спачатку віраўская ўстанова была філіяй ляснянскай, але неўзабаве стала самастойным манастыром; ігуменняй у 1898 годзе была назначана Анна Пато. Манашкі не вялі адкрытай місіянерскай дзейнасці, толькі дабратворную, мяркуючы такім чынам заахвоціць нашчадкаў былых вернікаў усходняга абраду да дабравольнага пераходу ў праваслаўе. Можна сказаць, што не хапіла для гэтага часу, бо ў 1905 годзе царскія ўлады дазволілі верацярпімасць, а дзесяць гадоў пазней манашкі былі вымушаны эвакуіравацца на ўсход. У 1905 годзе вернутыя ў праваслаўе ўніяты Кангрэсоўкі масава перайшлі ў каталіцызм. Напэўна не без значэння было і тое, што веравызнанне цароў вельмі дрэнна адрэкамендавала сябе не толькі ў акружаючым каталіцкім асяроддзі...

А ў Віраве ігуменя Анна дзейнічала з размахам; неўзабаве ў манастыры жыло каля двухсот манашак, якія працавалі ў школах, прытулках і на гаспадарцы. Быў прытулак для дзяцей і састарэлых, аптэка, шпіталь, пачатковая школа для дзяўчат і хлопцаў, школа рукадзелля, школа гаспадарання, настаўніцкія курсы ды іншыя ўстановы... Сама матушка Анна ў разгары сваёй дзейнасці захварэла туберкулёзам і ў 1903 годзе памерла, пражыўшы 38 гадоў; яе магіла знаходзіцца побач касцёла.

Пасля бежанства манашак у Першую сусветную вайну віраўскі комплекс перайшоў у польскае ўладанне. Царква Хрыста Збавіцеля зноў стала касцёлам Антонія Падуанскага, у частцы манастырскага комплексу пасяліліся манашкі непакалянкі, а ў іншай частцы дзейнічала спачатку настаўніцкая школа, а пасля пачатковая. Пасля Другой сусветнай вайны быў там Дом дзіцяці, у 1958 годзе ў комплексе зладжана лякарню ад алкагалізму, зараз там дом сацыяльнай апекі. Царква Серафіма Сароўскага ў канцы XX стагоддзя была перабудавана на плябанію...

Віраўскі манастырскі комплекс свой зорны час меў звыш веку таму. Цяпер выглядае ён крыху інакш. Няма побач карчмы, пра якую Зыгмунт Глогер пісаў: „На даволі высокім краю берага Буга стаяла старая драўляная карчма, вялікая, саламянай страхой крытая, шчытом павернутая да ракі. У абшырнай шынкоўні мітусілася жанчына сярэдняга ўзросту, мажная, сімпатычны від вясковай гаспадыні. Ейны муж з падголенымі ў гарызантальную лінію над губамі вусамі, у рагатай з сівой кажурыны, нягледзячы на летнюю пару, шапцы, быў такім экзэмплярам загараднага задрыпанага падляшскага шляхціча. (...) Хаты нашых вяскоўцаў не могуць абысціся без прыгартання ў сваю сярэдзіну дамашняй жывёлы. Тады і ў віраўскай карчме пад адной лавай начаваў статак белых, упэцканых у гразі качак, дапаўняючы характэрны абразок карчомнага памяшкання на Падляшшы".

Змяніўся і клімат, здаецца сыходзіць у нябыт суровая калісь зіма. Пра навальніцы можна толькі пачытаць, м.інш. у Глогера: „Над ваколіцай лютавала страшэнная бура, адна з тых нямногіх, якімі адзначыўся 1875 год. Ад грымотаў трэсся і палаў у няспынных маланках цэлы свет, а ад урагану трашчалі старыя зрубіны карчмы і здавалася, што ўмомант шалёны віхор зняце разам з намі старое карчомішча, як пярынку, з высокага краю берага ў цякучую ўнізе раку. А Буг той, на адвячорку такі ціхмяны і нясмелы, як дзіцятка, вырас знячэўку ў раз'юшанага гневам волата. Кідаў свае ўскіпелыя хвалі, быццам намагаўся разбурыць тое, у падножжа крутога берага, што меў здзейсніць віхор наверсе. Раскошнае электрычнае святло раздзірала агромныя нябесныя безданi, быццам для праверкі пасярод ночы, ці ярасць разбурэння на зямлі ўжо здзейснілася, і лавіна сярэбранага бляску цераз выбітае ў нашым пристанішчы акно залівала сярэдзіну шынка, асвятляючы ціхмяна молячыяся на каленях дзве постаці..." — гаспадароў гасціннай віраўскай карчмы.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960
04